# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 21 (2215) 23 мая 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


## ДЗЕЛЯ ЧАГО МЫ ПРЫХОДЗІМ НА ГЭТУЮ ЗЯМЛЮ?

*Васілю ВІТКУ споўнілася 80 гадоў*



**Васіль ВІТКА з праўнучкамі Ксюшай і Жэняй.**

Васілю Вітку (Цімаху Васільевічу Крысько) было семнаццаць, калі ў друку ў 1928 годзе з'явіўся яго першы верш:

**На чоўне сабраўся ў бязмежную даль,**
**У шлях невядомы, бясконцы.**
**Хай бераг далёка, а я паміж хваль**
**На сонца вяслую, на сонца!**

Простыя, бясхітрасныя радкі, гаворыць пра іх аўтар, але мне яны бачацца эпіграфам да ўсяго, што было пражыта і зроблена пісьменнікам на працягу доўгага плённага жыцця. Ён вядомы нам у розных іпастасях: паэт, празаік, драматург і, можа, самае дарагое і незвычайнае — педагог. Ён быў педагогам, калі на працягу многіх гадоў узначальваў рэдакцыю дзіцячага часопіса "Вясёлка". Педагог, калі піша для малых казкі, вершы, лічылкі, пацешкі, загадкі і калыханкі. Педагог, калі дае ў школе ўрокі роднай мовы і складае падручнікі. Настаўнікам і другам быў ён заўсёды для ўласных дзяцей, унукаў, а цяпер праўнучак, якіх вучыць разумець і любіць слова, узбагачаецца сам, спасцігаючы дзіцячую душу, раскрываючы перад ёю таямніцы зорнага неба і прыгажосць летніх світанкаў.

Аб сучаснай педагогіцы, яе здабытках, аб праблемах выхавання падрастаючага пакалення мы гутарым з Васілём Віткам напярэдадні яго юбілею. Вось толькі гаворка атрымалася зусім несвяточная.

— Не шанцуе ў нас гэтым праблемам, — пачаў сваё інтэрв'ю-роздум Васіль Вітка. — Памятаеце, як некалькі гадоў назад рэкламаваўся Усесаюзны з'езд настаўнікаў? На яго сабраўся цвет педагогаў з усёй краіны. А даклад Ягора Лігачова, сакратара ЦК КПСС у той час, быў узорам звыклага дагматызму. З'езд той, нібы мыльны пухір: следу ад яго не засталося аніякага, арыентацыі для настаўнікаў аніякай.

Помню, пасля 1985 года мы быццам схамянуліся, убачылі, што прычына няўдач не ў школе, а ў самой сістэме грамадскіх адносін, якія выпрацоўваліся на працягу больш як 70 гадоў, калі заскарузлыя догмы душылі жывую думку.

Аднак трэба сказаць, што пульс грамадскага жыцця біўся заўсёды, і свежая думка бруілася, шукала сабе выйсця. Першай зоркай, на святло якой пацягнулася многа людзей, а сярод іх і я, быў Васіль Сухамлінскі, усяго толькі вясковы настаўнік з сяла Паўлыш, што непадалёку ад Краменчуга.

— Да Сухамлінскага мы вялікім педагогам называлі Макаранку. Ці ёсць у іх метадах выхавання супярэчнасці, чым яны адрозніваюцца?

— У чым супярэчнасць паміж выхаваннем чалавека па Макаранку і ў чым па Сухамлінскаму? На першы погляд, быццам бы і не можа быць тут ніякіх супярэчнасцей. Калі Сухамлінскі адышоў з жыцця, яму трэба было даць ацэнку, знайсці месца ў педагогіцы. Вызначылі, што Макаранка і Сухамлінскі, хоць у розны час, але вучыліся ў адным інстытуце ў Палтаве, знайшлі агульнае ў іх пераканаННЯх і ў сістэме і з палёгкай уздыхнулі: Сухамлінскі — вучань Макаранкі. Нічога падобнага! Перш за ўсё трэба ўлічваць гістарычныя акалічнасці, час, у які яны жылі. Сама эпоха фарміруе па свайму ўзору, абліччу і патрэбе таго педагога, таго выхавацеля, які патрэбны быў у даных варунках. Чаму з'явіўся Макаранка? Гэта быў час разбурэння, адсталасці, беднасці і беспрытульнасці. Дзіця перш за ўсё трэба было ратаваць, а не вучыць. Выцягнуць яго з падваротні, з падвала, памыць, даць бялізну і пакласці ў чыстую пасцель, а потым пасадзіць за кніжку і вучыць, што "Маша ела ка-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ЗВАРОТ ДА ДЭПУТАТАЎ

## СТАЧКОМ ПАТРАБУЕ

“Наша і ваша работа павінна служыць чалавеку. Менавіта таму мы пратэстуем супраць злачыннага марнатраўства плёну цяжкай, знясільваючай працы нашага народа. Мы выступаем за кардынальнае скарачэнне бюджэту на ўтрыманне арміі і КДБ, дзяржаўнага апарату. Неабходна прыпыніць фінансаванне будаўніцтва прамысловых аб'ектаў, прадукцыя якіх не палепшыць жыццё народа“. Гэта словы са Звароту ўдзельнікаў рэспубліканскай канферэнцыі стачачных камітэтаў Беларусі да народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР.

Стачком настойвае на тым, каб на сесіі быў разгледжаны і прыняты новы Закон аб выбарах, які б гарантаваў усім грамадзянам рэспублікі роўнае выбарчае права.

Пасля павышэння рознічных цэн рэальная заработная плата знізілася ў тры разы. Яшчэ больш знізіўся ўзровень жыцця пенсіянераў, інвалідаў, студэнтаў. Сесія павінна адмяніць пяціпрацэнтны падатак з продажу і паслуг, павысіць заработную плату, пенсіі, стыпендыі і ўзровень кампенсацый усяму насельніцтву рэспублікі прапарцыянальна росту дзяржаўных рознічных цэн.

У Звароце таксама вылучаюцца патрабаванні заканадаўча дэпартызаваць усе дзяржаўныя структуры на тэрыторыі рэспублікі, у тым ліку на дзяржаўных прадпрыемствах, нацыяналізаваць маёмасць КПБ/КПСС, выкарыстаўшы атрыманыя сродкі для выканання праграмы перасялення пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, для патрэб адукацыі і аховы здароўя. Неадкладна адмяніць усе прывілеі партыйна-дзяржаўнай наменклатуры.

ЗААХВОЧВАННЕ

## ПАРТЫЙНЫЯ СТЫПЕНДЫІ І ПРЭМІІ

Сакратарыят ЦК КПБ прыняў рашэнне аб заснаванні стыпендый імя П. Машэрава Кампартыі Беларусі, прэмій Кампартыі Беларусі ў галіне сацыяльна-палітычных і гуманітарных навук.

Стыпендыі імя П. Машэрава будуць прысуджацца, пачынаючы з 1991/92 навучальнага года, студэнтам вышэйшых навучальных устаноў і аспірантам за асобыя поспехі ў вучобе, актыўную навуковую і грамадскую работу. Устаноўлена пяць стыпендый па 100 рублёў у месяц для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і дзве стыпендыі па 150 рублёў у месяц для аспірантаў.

Прэміі Кампартыі Беларусі прысуджаюцца за лепшыя распрацоўкі ў галіне сацыяльна-палітычных і гуманітарных навук. Устаноўлены дзве прэміі за навуковыя працы і адна за падручнікі, якія прысуджаюцца адзін раз у два гады, пачынаючы з 1993 года. Памер прэміі 5 000 рублёў.

ДРОБЯЗНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

## НОВАБУДОЎЛІ ПРАСТОЙВАЮЦЬ

Забеспячэнне новабудоўляў электратэхнічнымі вырабамі і матэрыяламі ў Беларусі ператвараецца ў невырашальную праблему. Разрыў ранейшых эканамічных сувязей з іншымі рэспублікамі прывёў да таго, што няма самых элементарных рэчаў. Пад сур'ёзнай пагрозай своечасовы ўвод у строй Палаца рэспублікі ў сталіцы з-за адсутнасці 19 кіламетраў браніраванага кабелю, дзесяткаў кіламетраў асвятляльнага праваду. Падобная ж карціна на рэканструкцыі радзільнага дома 6-й клінічнай бальніцы ў Мінску. Прыняць пацыентак ён павінен быў яшчэ ў мінулым годзе, аднак з-за недахопу кабелю, правадоў будынак не гатовы да эксплуатацыі.

АРЫГІНАЛЬНЫ МЕТАД ЛЯЧЭННЯ



У Брэсце адкрылася паліклінічнае аддзяленне сумеснай савецка-аўстрыйска-амерыканскай фірмы “Свенас“. Тут пры дапамозе арыгінальнага метаду, распрацаванага сімферопальскім урачом Віктарам Сарчуком, з высокай дакладнасцю можна ўстанавіць дыягназ, а затым пачаць эфектыўнае лячэнне хворага біялагічна актыўнай вадкасцю, без прымянення медыкаментаў.

Усяго за гадзіну-паўтары можна атрымаць поўнае ўяўленне аб стане арганізма, аб функцыях кожнага органа. Для гэтага з дапамогай электродаў “празвоньваюцца“ біялагічна актыўныя кропкі на кісцях рук і ступнях ног. Метад электраакупунктурнай дыягностыкі дазваляе ўстанавіць не толькі каардынаты і ступень паражэння органаў і тканак чалавека, але і выявіць прычыну захворвання, узбуджальнікаў немачы, іх таксіны. Вучні доктара Сарчука паспяхова лечаць хранічныя танзіліты, захворванні нырак і сэрца, хранічную пнеўманію, язвавую хваробу страўніка, гепатыт і поліартрыт і многае іншае.

НА ЗДЫМКУ: загадчык Брэсцкага паліклінічнага аддзялення фірмы “Свенас“ Аляксандр БОБЫРАЎ.

*“Катэгарычна не прымаю заявы тых прыхільнікаў старога Саюза, якія сцвярджаюць, што суверэнная Беларусь не зможа самастойна існаваць. Няма, маўляў, таго, няма гэтага. А што, усё ёсць у зямлі Галандыі, Даніі, Бельгіі, Фінляндыі? Былая калонія царскай Расіі Фінляндыя так развіла ў сваім суровым паўночным краі прамысловасць, сельскую гаспадарку, банкаўскую справу, што сёння пазычае мільярды долараў такому гіганту, як СССР. Хіба беларусы не могуць працаваць, гаспадарнічаць, хіба ў іх няма рук, няма талковых галоў? Усё ёсць, акрамя суверэнітэту і адпаведнага кіраўніцтва. Суверэнная Беларусь не збіраецца адгароджвацца жалезнай агароджай ад суседзяў. Наадварот, гэтыя сувязі стануць мацнейшымі і абсалютна лагічнымі. Так што дарма праціўнікі суверэнітэту прывіваюць нам комплекс непаўнацэннасці. Беларусь і беларусы яшчэ сябе праявяць. Бачу будучыню роднай Беларусі толькі ў якасці самастойнай, суверэннай, эканамічна моцнай дзяржавы, якая можа ўваходзіць у склад любога канфедэратыўнага аб'яднання такіх жа суверэнных самастойных дзяржаў. Я бачу Беларусь шматпартыйнай, прававой дзяржавай, з сапраўды рынычнай эканомікай, рознымі формамі ўласнасці. Ніякага халуйства і блюдалізства ў кіраўнікоў рэспублікі перад “старэйшым братам“, ніякім “цэнтрам“ ці эпіцэнтрам“.*

*(М. ТКАЧОЎ, старшыня Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады).*

АНТЫКРЫЗІСНАЯ ПРАГРАМА

# КАЛІ БУДЗЕ ДАВЕР НАРОДА

Беларуская антыкрызісная праграма, распрацаваная нашым урадам, больш дыпламатычна і прывабна называецца праграмай па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва. Але гэта нікольні не лагодзіць яе зместу — меры прадбачацца крутыя, рашучыя і нават жорсткія.

Што вымушае вынесці яе на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі ўжо цяпер, у маі? Дасюль жа мы цешылі сябе надзеяй, што з намі, можа, усё абыдзецца: Беларусь лічылася астраўком дастатку і спакою ва ўсесаюзным акіяне эканамічнага бязладдзя і сацыяльнага заняпаду. Ды не абмінула і наш край, наш працавіты народ гэта перабудовачнае ліха.

Яшчэ першы квартал 1991 года, калі рэспубліка працавала на запасах года леташняга, на пераходных астатках, мы здолелі стрымаць зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Але красавік паказаў, што крызіс — на парозе. Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіч на прэс-канферэнцыі, прысвечанай антыкрызіснай праграме ўрада, назваў журналістам несуцяшальныя лічбы. За красавік падзенне аб'ёмаў вытворчасці ў прамысловасці склала 5,6 працэнта ў параўнанні з тым жа месяцам года мінулага, а ў Мінску нават 11,7 працэнта. Агулам беручы, недапастаўка прамысловай прадукцыі склала 143 мільёны рублёў. Урад занепакоены тым, што зніжаецца вытворчасць тавараў народнага спажывання. Трывогу выклікае і тое, як ідзе сяўба ў рэспубліцы. Мала таго, што надвор'е сёлета не спрыяе хлебаробу, дык адмоўна адбіваецца і элементарная безгаспадарчасць. Калі не паправіць становішча, то восень і зіма будуць для нас надзвычай цяжкімі.

Таму ў антыкрызіснай праграме, бадай, самае важнае месца адводзіцца праблемам сельскай гаспадаркі — аснове нашага жыцця. Нягледзячы на тое, што ў Беларусі агульнае стаўленне да фермерскай гаспадаркі — скептычнае, калі наогул не адмоўнае, урад якраз бачыць у гэтым тое звяно, ухапіўшыся за якое, можна выцягнуць увесь ланцуг. І як ні дзіўна, ураду, нягледзячы на прынятыя Вярхоўным Саветам кодэкс аб зямлі і адпаведныя законы, перашкаджаюць праводзіць намечаную аграрную палітыку ў самым нізе.

— Мы і не падазравалі, — заявіў М. Мясніковіч, — наколькі кансерватыўнымі акажуцца кіраўнікі гаспадарак. Таму ў якасці важнейшага пункта нашай праграмы мы патрабуем прадаставіць права Дзяржаўнаму камітэту па зямельнай рэформе прымаць, нават без згоды землеўладальніка, рашэнне аб адчужэнні зямлі для стварэння садаводчых, агародных і фермерскіх гаспадарак.

Вядома, гэта не эканамічная, а адміністрацыйная мера, але што рабіць, калі людзі хочуць мець зямлю, а ім яе не даюць. Відаць, таму парасткі фермерства вельмі кволыя: што такое 345 фермераў з 7 300 гектарамі зямлі на ўсю Беларусь!

Пакуль фермерства пусціць моцныя карэнні ў зямлю, корміць і поіць нас калектыўная гаспадарка. Але яна таксама вымагае дапамогі. Тут будзе да месца сказаць, што незалежныя замежныя эксперты, якія рабілі ацэнку беларускай праграмы, перасцераглі: у гэтых умовах толькі не распускайце калгасы і саўгасы. Ды калі не зрабіць нешта кардынальнае, то ў хуткім часе нават моцныя калгасы стануць банкрутамі. Склалася драматычная сітуацыя: закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю выраслі ў сярэднім на 34,6 працэнта, на трактары — на 40 працэнтаў, камбайны — на 64. Аптовыя цэны на прадукцыю сельскай гаспадаркі не кампенсуюць затрат на набыццё тэхнікі, угнаенняў і г. д.

Праграма надзвычайных мер прапануе: прыбытак, атрыманы звыш сярэднегаліновага ўзроўню рэнтабельнасці прамысловасцю рэспублікі, якая працуе на дагаворных умовах, накіроўваць на развіццё сельскай гаспадаркі. Прычым дапамогу будуць атрымліваць і калгаснік, і фермер.

Як было сказана на прэс-канферэнцыі, урад вельмі трывожыцца за другое паўгоддзе. Прагноз — змрочны, магчыма падзенне нацыянальнага даходу на 20 працэнтаў, на чвэрць знізіцца аб'ём прамысловай вытворчасці. І калі не прыняць надзвычайных мер, то, магчыма, на 20 працэнтаў упадзе ўзровень жыцця насельніцтва. А за гэтым стаіць — беспрацоўе.

Цікавая дэталь: калі журналісты спыталі М. Мясніковіча, якая лічба беспрацоўных бачыцца спецыялістам, то адказ быў цвёрдым і адназначным: “Мы не займаемся прагнозамі беспрацоўя, таму што нам нельга дапусціць гэтага“.

Урад рэспублікі бачыць выйсце з крызісу толькі на шляху змянення форм уласнасці. Калі не спрыяць актыўнаму працэсу прыватызацыі, не пашыраць рыначныя адносіны, ніякая праграма нас не выратуе. У якасці практычнага кроку праграма прапануе перадаць у рукі грамадзян дзве трэці асноўных вытворчых фондаў, што складае прыкладна 56 мільярдаў рублёў. Але хто купіць завод, фабрыку, магазін, калі абсалютная большасць насельніцтва не мае сродкаў, каб сыта паесці? Праграма бачыць выйсце ў тым, каб каля палавіны ад кошту маёмасці, што падлягае прыватызацыі, аддаць насельніцтву бясплатна ў выглядзе інавацыйных бонаў. Іх можна пусціць на выкуп дзяржаўнай кватэры, іншыя мэты прыватызацыі, але нельга абарачаць у рублі.

Ёсць у праграме і вельмі непапулярныя меры. Адна з іх — узняць плату за лішкі жылой плошчы ў дзесяць разоў. Другая балюча закране моладзь: будзе скарочаны прыём у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

— Сёння мы адказныя за лёс народа і таму гатовы выканаць усё, што намецілі, — сказаў у заключэнне першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіч. — Але пры выключным даверы народа да ўлады.

Першае выпрабаванне антыкрызіснай праграмы — на сесіі Вярхоўнага Савета БССР, якая адкрываецца 21 мая. Можна прадбачыць адно: дэбаты будуць гарачыя.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



У будынку ВДНГ Беларусі ў Мінску прайшла міжнародная выстаўка. Яе ўдзельнікам стала індыйская фірма “Дзіна інтэрнэшнл“. Яна прадставіла на выстаўку медыцынскае абсталяванне і інструментарый. Многае з гэтага хутка будзе пастаўлена беларускім клінікам і бальніцам.

НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі.

### ЦІ ВАРТА ВЯРТАЦЦА Ў МІНУЛАЕ

# СВЯТЛО Ў ПАЧАТКУ ТУНЕЛЯ

«ЦІ ЁСЦЬ святло ў канцы тунеля?“ — пытаюцца адзін у аднаго людзі. І, напружваючы зрок, узіраюцца ў тоўшчу змроку. Але ў той час, як адны глядзяць наперад, другія, што адчаяліся і зняверыліся ў правільнасці выбранага напрамку, усё часцей азіраюцца назад.

У тунеля — два канцы, а значыць, з яго маецца два выхады. Ці не больш разумна падарожнікам, хто заблудзіўся, вярнуцца назад, туды, адкуль яны прыйшлі? Здаецца ім: там, у пачатку тунеля, заманліва праблісквае ясны пуцяводны прамень...

На працягу дзесяцігоддзяў мінулае адхілялася, асуджалася, забывалася. Знішчаліся не толькі храмы, помнікі і кнігі, але і людзі — жывыя сведкі мінулых гадоў, носьбіты традыцый. Калі гісторыю і не гналі прэч, то спрабавалі ператварыць у паслужлівую афіцыянтку, якая са словамі “чаго жадаеце?“ падносіць да стала сучаснасці дзяжурныя стравы.

Падобную зняву да мінулага — і нават пагарду і нянавісць да яго — лёгка растлумачыць. Вучэнне, якога мы прытрымліваліся, накіравана ў будучыню. Як лічылася, будучыня гэтая можа быць узведзена не інакш, як на абломках разбуранага дашчэнту старога свету.

“Камуністы лічаць недастойным утойваць свае погляды і намеры, — сцвярджаецца ў “Маніфесце камуністычнай партыі“. — Яны адкрыта заяўляюць, што іх мэты могуць быць дасягнуты толькі шляхам гвалтоўнага звяржэння ўсяго існуючага грамадскага ладу“. “Пралетарыям, — падкрэсліваецца крыху далей, — няма чаго... страчваць, акрамя сваіх ланцугоў. Набудуць жа яны ўвесь свет“.

Гэтая накіраванасць у будучыню знешне збліжае камуністычную ідэалогію з хрысціянствам. Як і іншая характэрная для яе асаблівасць — вера ў магчымасць прадбачання гэтай будучыні.

Ад веры ў магчымасць прадказваць — адзін крок да веры ў самі прадказанні. Наступны ж крок ужо пераносіць нас у сферу практычных спраў. Гэта спроба на падставе прадказанняў канструяваць і ствараць будучыню падобна таму, як здабывалі філасофскі камень алхімікі ці выводзіў свае цуд-злакі акадэмік Лысенка.

І, нарэшце, яшчэ адна звязаная з папярэднімі, дамінанта: пропаведзь ахвярнасці, пры якой сённяшні дзень (не гаворачы ўжо пра ўчарашні) аддаецца на пагібель дзеля дня заўтрашняга, а сённяшнія беды і пакуты апраўдваюцца і акупляюцца будучым шчасцем. Тут таксама можна было б правесці паралель з хрысціянствам, успомніўшы аскетычны дагмат аб дасягненні ідэалу шляхам катавання і забіцця плоці.

Пытанне аб неабходнасці самаахвяравання ў імя нашчадкаў такое няпростае, што патрабуе асобных разважанняў. Напрыклад, калі адысці ад трафарэтнага мыслення, увогуле няясна, ці павінны бацькі свядома цярпець пакуты дзеля дабрабыту дзяцей ці ж наадварот? Ці вырастуць дзеці і ўнукі ў змучаных галечай і пакутамі сем'ях паўнацэннымі, гарманічна развітымі, шчаслівымі? Ці будуць яны ўдзячныя бацькам і дзядам за прынесеныя ахвяры, ці, наадварот, пасмяюцца над імі і асудзяць іх, як гэта нярэдка адбываецца цяпер?

Другі бок пытання: а ці трэба ўвогуле мець столькі—у колькасных адносінах — нашчадкаў, каб для іх жыццезабеспячэння і добраўпарадкавання ручаямі праліваліся пот і кроў? “Пладзіцеся, і размнажайцеся, і напаўняйце зямлю“, — сказаў Бог створаным ім мужчыне і жанчыне. Але хіба мог ён думаць тады (у часы, якія, відаць, можна ахарактарызаваць як эпоху першабытнага камунізму), што справа абернецца так, што бедныя пачнуць пладзіць бедных, а не багачы багачоў?..

Практычны і разам з тым летуценны Хрушчоў, бачачы, што людзі стаміліся працаваць дзеля ілюзорнай “светлай будучыні“, якая пастаянна адсоўвалася ад нас, як лінія гарызонта, даў у 1961 годзе ўрачыстае абяцанне: “Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!“ І зрабіў ракавую памылку, як відаць, забыўшыся, што рабіць прароцтвы з канкрэтным тэрмінам выканання — недаравальная для сур'ёзнага палітыка рызыка. Куды прасцей і спакайней, напрыклад, гаварыць, што “прывід блукае па Еўропе“: смоўж паўзе, некалі будзе...

Хто цяпер будзе верыць у “навуковыя прадказанні“, а яны ж — асноватворны элемент дактрыны. Дэклараваны рух наперад, у будучыню, усё больш успрымаўся як кругаварот па замкнёнаму колу, быццам на цацачнай чыгунцы. “Наш паровоз вперед летит, в коммуне остановка...“ Але аказалася, ніякая не “камуна“ — “развіты сацыялізм“, ды і не прыпынак — застой.

“У краіне быў востры недахоп самага неабходнага: хлеба, тлушчаў, мяса, абутку, адзення, запалак, солі, газы, мыла... Людзі раптам адчулі нясцерпнасць гэтых недахопаў і сталі патрабаваць неадкладнай іх ліквідацыі“. Прыведзеная цытата — што б там ні здалося на першы погляд — узята не з учарашняга нумара “Праўды“, а са славутага “Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)“. Нагаданая сітуацыя адносіцца да 1921 года, перыяду разрухі, пачатковаму этапу будаўніцтва новага, шчаслівага жыцця. Але вось што сказаў у сваім дакладзе на XXYIII з'ездзе КПСС Гарбачоў: “Сёння савецкі чалавек не мірыцца з тым, што ён пакорна цярпеў у мінулым“.

Сем дзесяцігоддзяў мінула — і кола сапраўды замыкаецца.

Малочная рака з кісельнымі берагамі — калі такая і была некалі — перасохла, як Арал, забруджана хіміяй, як Волга. Няма ніякага сэнсу працягваць рух да вусця, адзін шлях — ісці шукаць запаветныя крыніцы.

Святло ў пачатку тунеля... Мінулае, ззяючы залатымі купаламі, заклікаючы мелодыяй званоў, паўстае перад намі ва ўсёй сваёй веліччы і бляску. З настальгічным сумам мы накіроўваемся ў гэтую назаўсёды страчаную дзіўную краіну, імкнучыся хоць што-небудзь перанесці з яе ў дзень сённяшні.

Расійскае “рэтра“ — мода. Вяртаюцца старадаўнія назвы вуліц і гарадоў. Паручнікі Галіцыны і карнеты Абаленскія, што выйшлі з магнітафоннага фальклору, расхаджваюць па іх, фарсяць новенькім, з іголачкі, старарэжымным абмундзіраваннем. Зноў пачынае ўкараняцца ва ўжытак зварот — пан, пані. А нехта ўжо зубрыць дарэвалюцыйныя граматыкі і робіць спробы выкарыстаць на пісьме яць, фіту і цвёрды знак на канцы слова.

На вочы наварочваюцца слёзы замілаванасці. Гімназісткі румяныя, ад марозу крыху п'яныя, саначкі на снезе — добры, стары час... Але вось ужо да ўсіх гэтых “цукерачак - абараначкаў“ пачынаюць прышпільваць праваслаўе, самадзяржаўе і народнасць, ці — веру, цара і айчыну... І ловіш сябе на трывожнай думцы: а ці сапраўды імперыя Раманавых — той самы ідэал грамадскага ладу, якім яго хочуць паказаць? І дарога назад — ад сталінскіх крывавых будняў да мікалаеўскай крывавай нядзелі — гэта той шлях, які павінна зрабіць краіна?

Дастаткова нават беглага знаёмства з класічнай рускай літаратурай, каб скласці ўражанне аб “свінцовых агіднасцях жыцця“, якімі была багатая дарэвалюцыйная Расія. Ці могуць лубачныя карцінкі, што выцягваюцца з куфраў, ці ідылічныя партрэцікі найяснейшага сямейства, што тыражуюцца сёння, прыхарашыць праўду гісторыі?

Многае, вядома, залежыць ад таго, якую праўду шукаць. Нельга не заўважыць: людзі звяртаюцца да мінулага, апанаваныя рознымі парывамі, супярэчлівымі імкненнямі. Адны маюць надзею пачаць гісторыю з чыстай, незапэцканай старонкі, імкнуцца знайсці апору ў першапачатковых нацыянальных каштоўнасцях (“хочацца мірнага міру і шчаслівага шчасця“, як сказаў паэт). Іншыя ж, раздзіраемыя комплексам духоўнай непаўнацэннасці, прагнуць самасцвердзіцца, каб, непамерна ўзвялічыўшы мінулае, незаслужана ўзвысіцца самім.

Пробны камень, што паказвае неаднолькавасць двух падыходаў, — адносіны да рэлігіі. Для адных хрысціянства, што адраджаецца ў краіне, — крыніца ачышчэння і дабра, заклік да пакаяння. Другім важная не столькі рэлігія, колькі царква, не столькі Бог, колькі ікона, не столькі дакрананне да тайны, колькі пышны рытуал, што суправаджае яго. Мала таго, забыўшы, што дзве першыя запаведзі — аб любові, некаторыя з іх сеюць нецярпімасць і варожасць, заяўляючы аб сваёй перавазе над іншымі людзьмі і народамі.

Але ці магчыма ўмацаваць веру аднымі толькі хрэснымі ходамі і гукамі званоў? “Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, што ачышчаеце звонку чашы і блюды, між тым, як унутры яны поўныя крывадушша і няпраўды, — усклікаў Хрыстос. — Фарысей сляпы! Ачысці раней унутранасць чашы і блюда, каб чыстая была і знешнасць іх“.

У гэтым адрозненні паміж сутнасцю і абалонкай, відаць, і крыецца ключ да разгадкі. Якім прывабным ні здаецца мінулае, да яго няма звароту. Ні міражы, ні дасягаючыя нашых вачэй промні пагаслых зорак не ў сілах развеяць змрок.

Можа быць, дапаможа святло, што гарыць унутры — у кожным з нас?

**Уладзімір РЭЗНІЧЭНКА,**
**палітычны аглядальнік.**

### ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ВЫЦІСНУТЫМ ЛІМОНАМ...

У рэдакцыю газеты “Голас Радзімы“.

Я, Несцяровіч Аляксандр Сяргеевіч, ліквідатар вынікаў аварыі на ЧАЭС. Жыву ў вёсцы Новы Двор Мінскага раёна. Пішу вам у газету з надзеяй аб дапамозе. Можа быць цераз газету як-небудзь паўплываеце на нашых бюракратаў.

Я ўжо столькі паабіваў парогаў розных кабінетаў і бальніц, што ўсё гэта можна назваць “блуканнем на пакутах“. Усе адсылаюць далей, толькі каб не браць на сябе адказнасць. А гэта значыць нежаданне дапамагчы чалавеку. Напэўна ў нашым грамадстве яно ўжо ўвайшло ў звычку. У 1986 годзе па закліку ваенкамата я добраахвотна быў на ліквідацыі аварыі на ЧАЭС. З усёй строгасцю і адказнасцю выконваў ускладзеныя на мяне абавязкі. Цэлых шэсць месяцаў працаваў без выхадных, ніколі не падаў духам і стараўся ўсё зрабіць добрасумленна і ў тэрмін, калі спатрэбілася, то ездзіў фатаграфаваць работы, што выконваліся на ЧАЭС. За гэта маю ад камандавання граматы і падзячныя пісьмы на работу. Вось тады я быў патрэбен Радзіме, і, думаю, я не адзін цяпер у такім становішчы. На ЧАЭС ехаў не дзеля якіх-небудзь ільгот, а па закліку сэрца. Ды хто мог ведаць тады аб нейкіх ільготах, калі яны з'явіліся праз пяць гадоў. Многія іх так і не дачакаліся. Пасля прыезду са збораў стала пагаршацца здароўе, захварэў на цяжкую форму цукровага дыябету. І на працягу ўсяго гэтага часу самаадчуванне пагаршаецца: па пяцьшэсць разоў на год ляжу ў бальніцы. Ужо паражоны сасуды ног (мікраангіапатыя) і нервовыя ствалы (полінеўрапатыя). З цяжкасцю перасоўваюся з дапамогай кійка. Нясцерпны боль у касцях і суставах, нават дзеці начамі палохаюцца майго крыку. На левай назе ўжо з цяжкасцю і болем разгінаецца сустаў. Двойчы ў горадзе Мінску поўнасцю ад сутаргі адняліся ногі, і давялося выклікаць хуткую дапамогу. Захворванне звя-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

### АД СЭРЦА ДА СЭРЦА



Міхаіл Мельнік добра вядомы нашаму чытачу сваёй актыўнай дабрачыннай дзейнасцю, накіраванай на дапамогу беларускаму народу ў яго цяжкім змаганні сам-насам з радыяцыйным нашэсцем. Летась ён пяць разоў наведваў Бацькаўшчыну, каб перадаць Беларускаму таварыству “Радзіма“ сабраныя ў Германіі, дзе жыве, медыцынскія лекі і прэпараты. У гэтым годзе на пачатку вясны Міхаіл Малахавіч выступіў у “Голасе Радзімы“ са зваротам да замежных суродзічаў, заклікаўшы іх падаць руку дапамогі маленькім ахвярам Чарнобыля, дзецям. А праз два месяцы пасля гэтага споўніў свой чарговы, шосты візіт — місію сапраўднай дабрадзейнасці: прывёз таварыству “Радзіма“ вялікую партыю дужа неабходных нам сёння вітамінаў, закупленую евангельскімі хрысціянамі як нямецкага, так і беларускага паходжання, членамі Саюза свабодных пяцідзесятніцкіх цэркваў Германіі. Вага гэтага грузу, які склаў дзве тысячы скрынак, перасягнула 20 тон, а кошт — 1 мільён 200 тысяч заходнегерманскіх марак.

6 мая ў Беларускім таварыстве “Радзіма“ адбылася ўрачыстая перадача каштоўных дарункаў прадстаўнікам каля 60 медыцынскіх устаноў з усіх шасці абласцей рэспублікі. У сваім слове да прысутных, сказаным пасля традыцыйнай і ў гэтых сценах малітвы, Міхаіл Мельнік акцэнтаваў увагу слухачоў на тым, што вітаміны — “свежыя“. Бо здараецца часамі — і ён сам быў сведкам, — што ў пасылках замежных ахвярадаўцаў трапляецца лякарства са скончаным тэрмінам годнасці. А гэта вельмі непажадана. І небяспечна. “Я ж адказваю за ўсё перад Богам, уладамі і сабой“, — адзначыў прамоўца.

Вялікую падзяку за падтрымку і супрацоўніцтва ва ўсіх яго пачынаннях выказаў Міхаіл Мельнік сваім нямецкім спадарожнікам, сужонству Ірыне і Герберту Хесам. Яны таксама прысутнічалі на цырымоніі перадачы. Падкрэсліў ён і актыўны ўдзел у дабрачынным руху суайчыннікаў Нямеччыны і бацькі Ірыны, былога прапаведніка, выхадца з Заходняй Беларусі.

Сама фрау Хес сказала: “Я вельмі рада, што першы раз знаходжуся на Радзіме маіх бацькоў і магу аказаць помач беларускаму народу. Часта, калі гляджу па тэлевізары перадачы пра Чарнобыль, я плачу. Але чалавек не павінен траціць надзеі ні ў чым, у тым ліку і ў магчымасці пазбавіцца ад гэтай страшнай катастрофы. Усе людзі на зямлі — браты і сёстры, і мы думаем, што і ў наступны раз здолеем дапамагчы вам такім жа чынам“.

Не бракавала на гэтай сустрэчы і з боку гаспадароў цёплых слоў удзячнасці ў адрас нямецкіх гасцей, бескарыслівых і шчодрых на дабро людзей.

**НА ЗДЫМКУ: у час уручэння дароў Беларускаму таварыству "Радзіма".**

# ПАЎМЕСЯЦ НАД ІЎЕМ







**Непаўторна прыгожы вясной старажытны гарадок Іўе. Прыгледзецца — і знойдзеш тут змяшэнне розных архітэктурных стыляў, эпох і рэлігій. Асабліва прыцягвае велічны сабор, які побач з прыгожай мячэцціу.**

**Мусульмане ў Беларусі?!**

**Менавіта так. З сямі тысяч жыхароў Іўя — рускіх, беларусаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў — сёмая частка — татары-мусульмане. 322 вернуючыя татарскія сям'і спакойна жывуць у гэтым краі разам з хрысціянамі і каталікамі, вызнаючы маральныя каштоўнасці Карана. Муэтдзін Ісмаіл Шабановіч (захавальнік мячэці) расказвае:**

**— Працуем, дзе каму па душы: у калгасе, у гандлі, у кааперацыі. Больш за ўсё ў апошнія гады на сваіх зямельных участках вырошчваем гародніну. Жывем у дастатку. Кожная сям'я, як правіла, мае ўласны дом ці кватэру, легкавы аўтамабіль, а то і два. З іўеўскіх татараў выйшла многа інжынераў, вучоных, настаўнікаў, юрыстаў, афіцэраў Савецкай Арміі. У раённай бальніцы чацвёртая частка медыцынскага персаналу — татары.**

**На пытанне, як апынуліся татары-мусульмане ў тутэйшых мясцінах, Ісмаіл Шабановіч адказаў, што наконт гэтага ёсць некалькі версій. Адны гісторыкі лічаць, што гэта рэшткі орд некалі магутных татара-мангольскіх ханаў — прадаўжальнікаў роду смелых вояў, якіх руская імператрыца Кацярына Другая наймала для аховы межаў Расійскай імперыі. Больш дакладнай лічыцца версія, што татары ў Іўі з'явіліся ў 1395—1398 гадах. Сюды іх прывёў з далёкага баявога паходу князь Вітаўт.**

**На свята байрам у Іўе з'язджаюцца татары з усіх куткоў Беларусі і іншых рэспублік. Збіраюцца ў мячэці, каб памаліцца алаху. Малітва ідзе на арабскай мове.**

**— Нядаўна на свае грашовыя ахвяраванні мы адрамантавалі мячэць, — расказвае муэтдзін Шабановіч. — Стары будынак ужо больш за сто гадоў стаіць на зямлі. Мы строга прытрымліваемся не толькі сваёй веры, але і агульначалавечай маралі. А яе не можа быць у некага больш, у некага менш. Яна ці ёсць, ці няма.**

**НА ЗДЫМКАХ: ранішні намаз муэтдзіна Ісмаіла ШАБАНОВІЧА; помнік архітэктуры — мячэць у Іўі пабудавана ў 1882 годзе; татарын Саша КАРЫЦКІ (у цэнтры) са сваімі сябрамі-аднакласнікамі Сямёнам ПАЛТАРАКЕВІЧАМ (злева) і Паўлікам ШЧЫКНО.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

# НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ВЫЦІСНУТЫМ ЛІМОНАМ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

залі з Чарнобылем, з'яўляюся інвалідам II-й групы. Хаця час ужо падаваць і на І-ю. Не называю яшчэ ўсе дробныя хваробы, і гэтых хопіць пад завязку. Вось нядаўна атрымаў накірунак у анкалогію, нешта яшчэ знайшлі ў горле. Адны толькі чатыры ўколы інсуліну ў суткі выматалі душу.

Падаваў заяву на камісію на атрыманне спецаўтатранспарту, і ўсюды адмаўляюць, матывуючы тым, што для чарнобыльцаў яшчэ не выпрацаваны інструкцыі і няма ўказанняў наконт гэтага. Хаця ўрачы яшчэ толкам не ведаюць уздзеяння радыяцыі на арганізм чалавека. Той радыяцыі, якая да ўсяго была заніжана, і ў ваенным білеце ўказалі 53 рэнтгены.

Я добра разумею, што ў нашай рабоце па ліквідацыі аварыі на ЧАЭС не грымелі выбухі, не адрывала рук і ног, як на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Але тут нябачны вораг, па сутнасці выбух атамнай бомбы, гэта значыць радыяцыя зрабіла тое самае, а магчыма яшчэ намнога горшае.

Невядома, колькі яшчэ мы працягнем. І таму ў медыкаў павінен быць іншы падыход да гэтай праблемы, бо я ведаю, што з такой бядой я не адзін. Нават у законе об сацыяльнай абароне сказана: перагледзець усе медыцынскія нормы. А ў нас пакуль раскачаюцца, пройдзе яшчэ пяць гадоў.

І якімі яшчэ грашыма можна вымераць страчанае здароўе і жыццё, якое ясна, што скарацілі! У законе яшчэ сказана об кампенсацыі за страчанае здароўе. Але нідзе я толкам не магу даведацца, хто і ў якой суме будзе яе выплачваць. А грошы патрэбны, таму што ў мяне малыя дзеці і ў наш час рыначнай эканомікі я са сваёй пенсіяй не змагу іх пракарміць і апрануць.

Пішу пісьмо з горкім жалем і крыўдай на нашых бюракратаў, ад якіх толькі і чую спачуванне, а дапамогі — ніякай. Спадзяюся, можа быць, вы ўздзейнічаеце на нашых кіраўнікоў і дапаможаце па справядлівасці. Я не хачу быць выціснутым лімонам, выкінутым з грамадства з-за хворых ног, і сядзець дома ў чатырох сценах. Нават не ведаю, як дабрацца да бальніцы, і гэта ўсё ў 40 гадоў!

Прашу вас, пастаўцеся да майго пісьма ўважліва, таму што магчыма гэта дапаможа і іншым, такім жа, як і я.

У цяжкі час для Радзімы я зрабіў усё, што было ў маіх сілах, і сумленна выканаў свой абавязак. Таму хочацца верыць, што мяне не пакінуць у бядзе.

**Першае памкненне, якое ахоплівае пасля прачытанага, — абрынуцца з гнеўнымі філіпікамі на абыякавасць, бессардэчнасць і цяганіну бюракратаў. Падставы для такой рэакцыі ёсць: скаргі чалавека, які заслужыў лепшых да сябе адносін, у двух асноўных момантах: адмаўленне ў выдачы яму спецаўтатранспарту, адсутнасць грашовай кампенсацыі за страчанае ў Чарнобылі здароўе. Падставы ёсць, аднак пры больш пільным разглядзе гэтых момантаў становіцца зразумелым, што без каментарыяў спецыялістаў і людзей адказных цяжка прыйсці да нейкае важнае высновы. Адзін з гэтых каментарыяў зрабіў па нашай просьбе вядучы спецыяліст нядаўна створанага ў Федэрацыі прафесійных саюзаў БССР аддзела па справах Чарнобыля Мікалай КРЫВАШЭЕЎ. Ён дэталёва растлумачыў шматлікія палажэнні Закона БССР об сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС. Згодна з літарай гэтага важнага дакумента, ліквідатарам — інвалідам, такім, як А. Несцяровіч, гарантуецца цэлы шэраг ільгот, сярод якіх і бясплатнае атрыманне лекаў, і санаторна-курортнае лячэнне, і, між іншым, забеспячэнне спецаўтатранспартам. І, як высветлілася, дзейнічае без зрываў — ва ўсякім разе ў адносінах да гэтай катэгорыі ліквідатараў — фінансавае забеспячэнне закона. Дык у чым можа быць тут справа?**

**Адрасуем гэтае пытанне намесніку міністра сацыяльнага забеспячэння БССР Генадзю БЯСПАЛАВУ.**

**— Трэба як след разабрацца ў сутнасці пісьма Несцяровіча, тады ўжо адказваць грунтоўна. Але ж, увогуле гаворачы, у законе аб сацыяльнай абароне, назаву яго па памяці, прадугледжана забеспячэнне спецыяльным транспартам, аўтамабілем "Запарожац" з ручным кіраваннем, удзельнікаў ліквідацыі аварыі пры наяўнасці медыцынскіх паказанняў. Не ўсякі ліквідатар мае права на атрыманне аўтамабіля, а толькі той, у каго ёсць такія паказанні. Што за яны? Гэта парушэнні апорна-рухальнага апарата. Перадайце нам гэты ліст, і мы высветлім, дзе і якая затрымка здарылася, на якой стадыі. Бо першым, хто накіроўвае інваліда на камісію, з'яўляецца тая лячэбная ўстанова, дзе чалавек стаіць на ўліку. Калі ёсць парушэнні — накіроўвае, калі не — дае адмоўны адказ сама.**

**Другі пункт — аб кампенсацыях... Наколькі я зразумеў, маюцца на ўвазе кампенсацыі тым інвалідам-пенсіянерам, хто не працуе. І складаюць яны сёння 65 рублёў. Адзначу, што ў дачыненні да пенсійнага забеспячэння інвалідаў дзяржава дае трывалыя гарантыі. У ліквідатараў, у залежнасці ад ступені страты здароўя, даволі значная пенсія.**

**Сяргей БОЙКА, прэзідэнт Саюза ліквідатараў "Прыпяць":**

**— Мы лічым, што для ліквідатара-інваліда, жыццёвая прастора якога абмежавана чатырма сценамі, каму цяжка рухацца, машына — не раскоша, а сродак перамяшчэння. І ён павінен мець такі транспарт. У выпадку, калі сам не здольны кіраваць аўтамабілем, дык за яго гэта могуць рабіць іншыя члены яго сям'і. Антыгуманна, што ў гэтай справе ліквідатарам ставяцца нейкія перашкоды. Што гэта за інструкцыі, аб якіх піша Несцяровіч... Мяркую, што размова ідзе аб медыцынскіх даведках, якія павінны мець на руках кандыдаты на права кіраваць транспартным сродкам. А даведка выдаецца толькі тады, калі ў чалавека няма супрацьпаказанняў. А якія яны найбольш тыповыя ў інвалідаў-чарнобыльцаў? Як правіла, рассеяны склероз, прысутнасць стронцыю ў арганізме. Адсюль — баляць суставы, мышцы. Нельга ў гэтым сэнсе ставіць ліквідатара на адну дошку з афганцам ці ветэранам вайны. Вось чаму трэба перагледзець старыя нормы, інструкцыі. Што датычыць кампенсацый, дык, на мой погляд, тут Несцяровіч мае на ўвазе тое, што на Беларусі быў пачаўся рух, каб звярнуцца ў міжнародны суд і потым выплачваць пэўныя сумы пацярпеўшым. Пакуль нічога новага тут няма.**

**Пакіньце гэтае пісьмо нам. Мы будзем прымаць захады як незалежная грамадская арганізацыя.**

**... Шмат неабходных нашаму грамадству новых законаў прынята апошнім часам. На вялікі жаль, дзейнасць многіх з іх абмяжоўваецца адно праходжаннем шляху ад Вярхоўнага Савета да стала выканаўчых органаў. На гэтым яны, законы, альбо канчаткова перастаюць працаваць, яшчэ не пачаўшы тую працу, альбо працуюць напалову моцы. Прычын таму нямала. І адна з іх, на нашу думку, у тым, што новы закон, якім бы гожым ён ні быў, пры ўзаемадзеянні са старымі інструкцыямі і пастановамі вязне ў іхняй руціне і губляе сілу, як у нашым прыкладзе. Ды і трактоўка яго, як бачыце, у розных установах розная. Відаць, Вярхоўнаму Савету БССР трэба, акрамя ўдасканалення заканадаўчай работы, актыўна браць на сябе і функцыю кантролю за ўвасабленнем заканадаўчых актаў у практыку жыцця, за руплівым давядзеннем іх да апошняй інстанцыі, каму яны павінны служыць, да людзей.**

**Ліст жа Аляксандра Несцяровіча мы пераслалі ў Саюз ліквідатараў "Прыпяць". Будзем чакаць ад іх захадаў, як тое было нам абяцана.**

*СЛАВЯНСКІЯ АСПЕКТЫ ВІЛЕНСКАЙ КАТАСТРОФЫ*

# II. РАЗМЕННАЯ МАНЕТА ЦІ КАЗЫРНАЯ КАРТА?

Працяг. Пачатак у № 20.

### ФЕДЭРАЦЫЯ ВКЛ З ПОЛЬШЧАЙ І ЯЕ ТРАГІЧНЫЯ ВЫНІКІ

Наша гісторыя была гераічнай і крывавай — да таго часу, пакуль беларусы абаранялі незалежнасць і свабоду са зброяй у руках — на полі бітвы, у крывавых сечах з ворагамі з усходу і захаду, поўначы і поўдня, аддаючы жыццё за Беларусь-Літву і яе будучыню. Рашаючая бітва пад Грунвальдам паклала канец нямецкай экспансіі на зямлі славянскіх народаў. Аднак на ўсходзе барацьба не спынялася, таму што рашаючай перамогі над маскоўскімі войскамі дасягнуць не ўдавалася. Занадта вялікія былі прасторы, што папаўнялі чалавечымі рэсурсамі паўстаючага ад татарскага прыгнёту славянскага калоса — Маскоўскую Русь, экспансія якой, як сведчыць гісторыя, паставіла пад пагрозу існаванне не толькі ВКЛ.

У гэтых умовах стаў непазбежным федэратыўны саюз ВКЛ з Польшчай, у рамках якога адбылося паступовае ўзмацненне Польшчы і аслабленне княства. Гісторыя сведчыць, што Варшава фактычна пачала праследаваць імперскія і каланіяльныя мэты ў адпаведнасці з вядомай формулай: адна краіна, адна рэлігія — адзін народ. Забарона ў 1697 годзе выкарыстання беларускай мовы (як дзяржаўнай) на тэрыторыі ВКЛ стала трагічнай вяхой палітыкі, накіраванай на дэбеларусізацыю, у першую чаргу, шляхты, гараджан.

У канцы XVII стагоддзя ў выніку раздзелаў Рэчы Паспалітай "унутраная" акупацыя княства змяняецца прамым захопам ВКЛ царскімі войскамі. Аднак акупанты, што прыйшлі з усходу, дзейнічаюць падобна да заходніх "калег" у рамках вядомай формулы "адзінага народа", маючы на мэце навекі прывязаць захопленыя землі да "спрадвечна рускіх" (як раней да "спрадвечна польскіх").

У гэтым ядры рускай ідэі і польскай дактрыны, што праводзілася ў адносінах да Беларусі больш за 200 гадоў, этапы польска-рускай барацьбы змяняліся "канструктыўнай" садружнасцю на падставе падзелу беларускага народа і яго зямель на дзве часткі, часта ва ўмовах тайнай змовы.

Жывучасць імперскай свядомасці і народжанай ёю палітыкі абумоўлена, аднак, не столькі сапраўднымі інтарэсамі Расіі і Польшчы, як актыўным укладам у прапаганду і рэалізацыю адпаведных ідэй і ўстановак з боку раней беларускага, але дэбеларусіфікаванага гарадскога і шляхецкага насельніцтва. Многія выхадцы з гэтага асяроддзя сталі заўзятымі барацьбітамі за русіфікацыю ці апалячванне сваіх сабратоў. З іх дапамогай у гарадах Беларусі ў XIX і XX стагоддзях фактычна вялася няспынная вайна супраць нашага народа. Ішла барацьба за душы і розумы ў руска- і польскамоўных навучальных установах, цэрквах і касцёлах.

### ГОРАД — ЦЭНТР ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ

Вынікі гэтых "баёў" уражваюць. Была дасягнута этнічная пераарыентацыя перш за ўсё гарадскога насельніцтва, што і знайшло адлюстраванне ў адным з самых дакладных перапісаў — перапісе 1897 года. Аказалася, што ў Мінску, Вільні, Гродне, Віцебску і г. д. колькасць гараджан, якія лічылі сябе беларусамі, складала ад 5 да 20 працэнтаў. Да 40 працэнтаў гарадскога насельніцтва складалі яўрэі (што было ўласціва для Польшчы і Беларусі з-за рысы аседласці), а астатнія 50 атаясамлівалі сябе з рускімі ці палякамі.

У каланіяльнай Беларусі, пазбаўленай царскімі ўладамі нават свайго гістарычнага імя (Паўночна-Заходні край), з забароненай роднай мовай, "пераплаўка" беларусаў, што адбывалася ў гарадах, дасягнула жудасных памераў. Узнік новы феномен: "небеларускія гарады... Беларусі". У выніку нашы гарады сталі, з аднаго боку, ахвярай, а з другога, зброяй каланіяльнай экспансіі і этнагенацыду, якія праводзіліся ў адносінах Беларусі і яе народа дзвюма суседнімі славянскімі дзяржавамі. Аднак належнасць Беларусі такіх гарадоў, як Мінск, Полацк, Віцебск, Вільня, Брэст і г. д., вызначаецца не толькі ідучымі ў глыб вякоў беларускімі каранямі жыхароў гэтых гарадоў, але і сельскім у асноўным беларускім акружэннем, з якога гэтыя гарады раслі і чэрпалі матэрыяльныя і людскія рэсурсы.

Дастаткова напомніць (даныя перапісу 1897 года), што яшчэ ў пачатку XX стагоддзя насельніцтва нават на Віленшчыне складалася ў асноўным з беларусаў, якія з'яўляліся такім чынам продкамі большасці сучасных польскіх патрыётаў у Вільні і Віленскім краі.

### ВІЛЕНСКАЯ КАТАСТРОФА XX СТАГОДДЗЯ

Адным з самых трагічных вынікаў польска-рускай палітыкі этнагенацыду ў гарадах Беларусі з'яўляецца лёс нашай старажытнай сталіцы — Вільні.

На працягу большай часткі сваёй шматвяковай гісторыі, ад зараджэння да нядаўніх дзён, гэты славянскі горад гаварыў, пісаў і думаў у значнай частцы на беларускай мове. А пасля яе забароны ў якасці дзяржаўнай пераходзіць на польска-беларускі дыялект (віленскі польскі) і далей, пачынаючы з XIX стагоддзя, у якасці сталіцы паўночна-заходняй Русі — на рускую мову. Перапіс 1897 года фіксуе, што ў Вільні пражывае 56 працэнтаў славян, 40 — яўрэяў і толькі 1 працэнт літоўцаў. Пасля грамадзянскай вайны (у 1919 годзе) заходнебеларускія землі адыходзяць да Польшчы. Царскае ўладарніцтва змяняецца польскай акупацыяй.

20-гадовы перыяд гаспадарання пілсудчыкаў на беларускіх землях характарызуецца як прымяненнем самых жорсткіх мер для апалячвання насельніцтва, так і адкрытай фальсіфікацыяй даных аб этнічным складзе. Няцяжка паказаць, что праводзімыя ў такіх умовах перапісы насельніцтва мелі ў першую чаргу палітычную мэту — абгрунтаваць прыналежнасць гэтых зямель да Польшчы. Гэта трэба мець на ўвазе, аналізуючы дынаміку польскага насельніцтва, у тым ліку на Віленшчыне, у першай палове XX стагоддзя. Нашэсце гітлераўскіх войск на Польшчу і ўвядзенне Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь паклала канец 20-гадовай акупацыі вялікай тэрыторыі, заселенай пераважна беларусамі. Гэта — частка Мінскай вобласці, Брэсцкая і Гродзенская вобласці, Беластоцкае ваяводства і Віленскі край, з гарадамі Брэст, Гродна, Вільня і г. д.

Воляю "правадыроў народаў" (Гітлера і Сталіна) статус сталіцы Заходняй Беларусі Вільні мяняецца двойчы, зыходзячы з ваенных, дыпламатычных і іншых інтарэсаў Берліна і Крамля. Час паскарае свой бег: акупацыя — вызваленне, зноў акупацыя...

У абмен за дазвол стварыць на тэрыторыі Літвы савецкія ваенныя базы і ўлічваючы патрабаванне Гітлера, Сталін перадае Вільню і Віленшчыну буржуазнай Літоўскай дзяржаве. Уражаныя віленцы сталі сведкамі "захопу" свайго горада без адзінага выстралу войскамі суседняй дзяржавы Літвы.

Ніхто не мог у той час сур'ёзна меркаваць, што даная падзея — не кароткачасовы эпізод у жыцці горада, што ўвод у горад чужаземнага і зусім чужога яму воінства (накшталт нядаўняга германскага), апранутага, паводле сведчання відавочцаў, у "смешнае аперэтачнае адзенне" і якое размаўляла на незразумелай мове, вызначыць на дзесяткі гадоў наступ новай неславянскай главы э гісторыі горада.

Трагічным пачаткам гэтага перыяду сталі масавая дэпартацыя і знішчэнне дзесяткаў тысяч віленцаў — славян і яўрэяў у 1940—1950 гадах. Затым паследавала паступовае засяленне горада літоўцамі, колькасць якіх на сённяшні дзень дасягнула 50 працэнтаў.

Аднак правесці дэславянізацыю сельскіх раёнаў і невялікіх гарадоў Віленскага краю аказалася немагчымым. На сёння колькасць літоўцаў тут нязначная.

### ФОРМУЛА КАЛАНІЗАЦЫІ

Вясной 1990 года ў Літве публікуецца і шырока распаўсюджваецца карта з межамі Літвы, што праходзяць паблізу Мінска, з дадатковым "далучэннем" многіх беларускіх гарадоў і вёсак. Грамадзянін, які не ведае тайны правядзення такой дзіўнай "мяжы" паміж Беларуссю і Літвой, мяжы, што праходзіць сярод зямель, спрадвеку заселеных па абодва бакі далёка на поўнач і яшчэ далей на поўдзень беларусамі, здзіўлена ўсклікае: "На якой падставе?!" А чалавек з гумарам дадасць: "І Мінск уключыць туды ж — і будзе менш абгрунтавана, чым усё астатняе на гэтай карце, разам з Вільняй".

Грамадзянін, знаёмы з этапамі "асваення" далучанага ў 1939 годзе да Літвы Віленскага краю, абавязкова скажа, што "мяжа разумная... Мінск нельга ўключыць у склад Вялікай Літвы, паколькі рускамоўных мінчан нельга... апалячыць... Яны ўжо русіфікаваны амаль на сто працэнтаў".

"Але чаму б іх не літуанізаваць?" — запярэчыць грамадзянін, не дасведчаны ў нашым гістарычным мінулым.

"Часу не хопіць, у тысячагоддзе не ўложацца", — удакладняе гумарыст.

Разважанні і спрэчка трох грамадзян ля карты прывялі нас да "магічнай формулы", як каланізаваць землі, заселеныя беларусамі. Формула каланізацыі трохходавая. Першы ход (тэарэтычная база) заснаваны на атаясамліванні Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) з балцкай дзяржавай (ВКЛ-Літва). Другі крок — паколькі беларускія землі ўваходзілі ў ВКЛ, а Вільня была яго сталіцай, то яны могуць быць запатрабаваны Літвой, як прамой спадчынніцай ВКЛ. Гэта і адбылося ў працэсе перагавораў у 20-х гадах паміж Літвой і Расіяй. Заключны ход заключаецца ў тым, што для ўтрымання адарваных зямель з пераважным беларускім насельніцтвам неабходна забіць яго нацыянальную самасвядомасць. Гэта дазволіць падавіць магчымы беларускі сепаратызм у Літве. Запалохаць "тутэйшых" людзей так, каб стварыць нейкі "новы этнас". Ідэальна было б "літуанізаваць" гэтае насельніцтва, але паколькі гэты працэс запатрабуе занадта многа часу, то варта ўсямерна садзейнічаць яго паланізацыі. Аднак тэарэтычная аснова "формулы" негрунтоўная, славянскі характар ВКЛ такі ж неаспрэчны, як балцкі сучаснай Літоўскай рэспублікі, дзе рускамоўнае насельніцтва складае каля 20 працэнтаў. Скарыстаўшы гэтую тэрміналогію, можна сцвярджаць, што ў ВКЛ "літоўскамоўная частка" складала менш за 20 працэнтаў. ВКЛ, будучы шматнацыянальным, было ў першую чаргу славянскай (беларускай) дзяржавай. І калі гэтай дзяржаве суджана было распасціся на славянскую і неславянскую часткі, то разлом адбыўся па зямлі, што на поўнач ад Вільні.

Нягледзячы на працяглую барацьбу з гістарычнай памяццю і нацыянальнай самасвядомасцю, аказалася, што ператварыць у сапраўдных палякаў карэнных жыхароў Віленшчыны складана. Сярод простага народа адбывалася адхіленне штучна насаджаемай у школах і касцёлах польскай мовы. Але сталі бачны і першыя вынікі гэтай упартай ідэалагічнай, культурнай і адукацыйнай палітыкі. Яны праявіліся ў сферы самасвядомасці. Уступаючы працягламу сілавому ціску, народ не тое, каб усумніўся, а нібы засаромеўся сваёй беларускасці, вызначаючы сваю нацыянальнасць як "тутэйшы", а сваю беларускую мову — "тутэйшай". Ну і як было не засаромецца і не ўступіць нашаму далікатнаму і сарамліваму працоўнаму люду, калі старанна і ўпарта гаварылі, патрабавалі і пераконвалі яго не якія-небудзь заезджыя эмісары польшчыны, а свае дзеці, што выйшлі плоць ад плоці з гэтага народа — інтэлігенты і інтэлектуалы, якія прысвяцілі сябе служэнню польскай ідэі і польскай культуры на Віленшчыне. Так працягваецца і па сённяшні дзень — з аднаго боку, невялікая група "па-сапраўднаму польскіх" патрыётаў палітычна актыўнай пішучай і прапаведуючай эліты, з другога — "тутэйшыя" людзі, адарваныя ад сваіх кроўных братоў беларусаў, але якія так і не сталі палякамі, на што працягваюць ускладаць надзеі не толькі польскія палітыкі, але і літоўскія. Так, нядаўна ў газеце "Саюдзіса" "Згода" літоўскі прафесар, даследчык славян, зрабіў цікавае адкрыццё аб нараджэнні ў XX стагоддзі ў Віленскім краі новага этнасу — віленскіх беларускіх палякаў. Вось якія цуды адбываюцца ў Еўропе на парозе XXI стагоддзя ва ўмовах таталітарных рэжымаў.

Атаясамліваючы рэлігійныя погляды з нацыянальнай прыналежнасцю і скарыстаўшы існуючую ў СССР пашпартную сістэму, у графе аб нацыянальнасці большая частка насельніцтва краю была за апошнія 50 гадоў запісана палякамі. Аднак ці не рана аб'яўляе прафесар аб нараджэнні новага этнасу, імкнучыся разам з групай польскіх палітыкаў, якія згрупіраваліся вакол "Курьера Виленского" і польскіх газет Літвы пахаваць "тутэйшых"? Але, ліквідаваўшы на Віленшчыне адзін славянскі народ, сутыкнуліся з сепаратызмам з боку прадстаўнікоў "зноў узнікшага польскага этнасу".

Аднак польскі сепаратызм для кіраўніцтва Літвы не без падстаў уяўляецца менш небяспечным, чым сепаратызм "тутэйшых" ці беларускі. Улічвалася тое, што Віленскі край не звязаны тэрытарыяльна з Польшчай. Маецца і казырная карта, што дазваляе перацягнуць на свой бок польскіх лідэраў Віленшчыны палітычнымі метадамі. Для аслаблення сепаратызму і нават адмовы ад яго дастаткова любога вострага канфлікту з СССР ці яго "акупацыйнай" арміяй. Здаецца, гэтая карта і была разыграна літоўскім кіраўніцтвам у сярэдзіне студзеня 1991 года.

Ахапіўшыя ўвесь свет абурэнне дзеяннямі арміі і смутак па нявінных ахвярах у Вільнюсе вызначалі новы настрой "польскай фракцыі" ў парламенце Літвы. Яны заявілі аб зняцці пытання аб аўтаноміі Віленскага краю (інфармацыя з выступлення народнага дэпутата БССР С. Навумчыка). Аднак пытанне аб далейшым лёсе "тутэйшых" залежыць ад мудрасці і волі самога народа.

### НОВЫ НАПАМІНАК АБ СТАРЫМ ДОЎГУ

Памянёная намі "новая" карта вялікай Літвы не з'яўляецца, аднак, плёнам фантазіі экстрэмістаў узору 1990 года. Яна адпавядае дамоўленасці аб прызнанні правоў Літвы на гэтыя землі, дасягнутай у 20-х гадах у выніку здзелкі паміж таталітарным рэжымам Расіі і буржуазнай Літвой. (Зусім нядаўна Літва ўрачыста адзначыла юбілей гэтага ганебнага дагавора!). У выніку "ўдалага" пагаднення Расія набыла саюзніка, такога неабходнага ёй у гэты перыяд міжнароднай ізаляцыі, у абмен на абяцанні, якія аказаліся вельмі далёкімі ад рэальнага жыцця гэтага рэгіёна. Заходняя Беларусь са сваёй сталіцай Вільня заставалася ў складзе Польшчы, не чакаючы ні анексіі з боку Літвы, ні тым больш добраахвотнага "ўваходжання" ў яе. Дзяленне беларускіх зямель адбылося раней, у выніку буйных ваенных дзеянняў паміж Польшчай і Расіяй. Прыклад іх агрэсіі на беларускай зямлі, а таксама вынікі яе падзелу з'явіліся для прадстаўнікоў Літвы таго часу прыкладам для пераймання. Аднак сіл на ўдзел ва ўзброеным захопе ў Літвы было недастаткова, таму давялося абмежавацца "агрэсіяй на паперы".

Тым не менш гісторыя захацела распарадзіцца так, што гэтая "нявінная" дыпламатычная акцыя (фактычна мара аб вялікай дзяржаве), пачатая пры Леніне, дзякуючы Сталіну і Гітлеру, у выніку сакрэтнага пагаднення 1939 года атрымала рэальнае ўвасабленне ў жыцці. Праўда, пагадненне было выканана не ў поўным аб'ёме. Па невядомых прычынах Сталін (паскупіўся!) зменшыў перадаваемую Літве за права ўводу на яе тэрыторыю савецкіх войск заходнебеларускую тэрыторыю. Так што застаўся за СССР... даўжок. Не ўсё абяцанае з акупіраваных Польшчай і заходнебеларускіх зямель атрымана ў 1939 годзе. Можна дапусціць, што менавіта пра гэты доўг хочуць нагадаць тыя, хто вясной 1990 года перавыдаў гэтую карту.

**Віктар СІЎЧЫК.**

## ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ



# НАТАЛЕННЕ АКЦЁРСКАЙ СМАГІ

У вачах экзаменатараў свяцілася адабрэнне. Пятро нічога не разумеў. Звычайна экзаменатары даюць адзін, у выключным выпадку два эцюды, а яму прапанавалі вось ужо цэлую серыю і ўсё не супімаюцца. Забыліся на чаргу за дзвярыма і займаюцца ім адным.

Пятро Алейнікаў быў прыняты ў інстытут на кінематаграфічнае аддзяленне да педагога Сяргея Герасімава. Пад кіраўніцтвам вопытнага настаўніка Пятро старанна займаецца ў майстэрні. Ён гадзінамі ўглядаецца ў Эрмітажы ў палотны найвялікшых майстроў. З глыбокім душэўным хваляваннем пераступае парог апошняй кватэры Пушкіна, чытае мастацкую літаратуру. Набывае абанемент і слухае сімфанічныя канцэрты. Глядзіць фільмы і спектаклі. Знаёміцца з артыстамі, рэжысёрамі, журналістамі і мастакамі. Прыглядаецца да іх жыцця і творчых пошукаў.

Яшчэ студэнтам Алейнікаў здымаецца ў невялікіх ролях — у кінафільмах "Я люблю", "Сустрэчы", "Сяляне". Ён яшчэ не меў мажлівасці разгарнуць у іх свой яркі талент. Але карысць атрымаў выключную: пазнаёміўся з вопытнымі кінаакцёрамі, з працэсам стварэння фільмаў. Гэта была і матэрыяльная падтрымка. Без дапамогі з дому даводзілася цяжка, і таму сякі-такі заробак быў вельмі дарэчы.

Нехта запытаўся, ці здымаюць яго ў Белдзяржкіно. Ён збянтэжыўся і быў вельмі здзіўлены, даведаўшыся, што беларуская кінафабрыка знаходзіцца ў Ленінградзе, у колішнім прыватным тэатры, на Канале Грыбаедава. У той жа дзень ён накіраваўся да землякоў. Ходзячы з павільёна ў павільён, ён разглядаў дэкарацыі і здымачныя пляцоўкі, сачыў за здымкамі. Згаладалы па родным слове, спрабаваў у калідорах ці на пляцоўках шырокіх лесвіц загаварыць па-беларуску, але на яго глядзелі са здзіўленнем, і ён змаўкаў. Трапляліся тыя людзі, якія забыліся не толькі на мову, але і пра тое, што яны беларусы. Гэта ўразіла хлопца, і ён вярнуўся з агледзін з горкім пачуццём незадаволенасці.

Праз некаторы час неадольная туга па Беларусі прывяла яго зноў на Канал Грыбаедава. На жаль, і на гэты раз ні з кім не завязалася ў яго сардэчнай размовы, не сустрэўся чалавек, да якога ён прыгарнуўся б душою. Звычайная кінематаграфічная мітусня, фанабэрыя і пыха спараджалі нават у некаторых майстроў безуважнасць і абыякавасць да ўсяго, што не закранала іх асабістых інтарэсаў. Пераважна гэта былі шэрыя і нецікавыя людзі, яны стваралі прымітыўныя мяшчанскія фільмы, а пасля living рознымі штукарскімі захадамі распальвалі вакол іх такую пахвалу, нібы гэта былі неперавузыдзеныя шэдэўры.

Іменна такія людзі, выслухаўшы споведзь шчырага хлопца, пачалі па-ментарску павучаць яго, пераконваць, што выбраў ён сабе не той шлях, раілі адмовіцца ад кінамастацтва і пашукаць больш надзейную прафесію. Некаторыя "дарадчыкі" не ўтойвалі цынічнага стаўлення да сваё творчасці і прызнаваліся, што, калі б знайшліся пасады, на якіх плацілі б не меней, як у кіно, яны паспяшаліся б як найхутчэй заняць іх.

На жаль, паразітуе яшчэ ў мастацтве такая хвароба — прадузятасць. Здараецца, завысяць чалавеку марку, начэпяць на яго ярлык, і паступова ўсе пачынаюць верыць, у тым ліку і сам гэты чалавек, што ён іменна такі і ёсць. А яшчэ часцей бывае, што недаацэняць. Тады чалавек пачынае губляць веру ў сябе.

Настойлівы мастак ніяк не пагаджаецца з заніжанай ацэнкай і з часам, аддаючыся працы, выяўляе не абы-які талент, дасягаючы ў творчасці сапраўдных вяршынь. Тыя, хто яго недаацэньваў, бянтэжацца, але па інерцыі чапляюцца за свае ранейшыя ўяўленні, не адразу прымаючы на веру новыя. Толькі тады, калі мастак ужо мае агульнае прызнанне і творчасць яго становіцца грамадскаю з'яваю, яны мусяць прызнацца ў сваёй памылцы.

Падобнае здарылася з Пятром Алейнікавым. Ён цярпліва чакаў удачы ў якой-небудзь здымачнай групе ў "Белдзяржкіно", але шчасце не ўсміхалася яму. Мінаў час. Яго здымалі ў масавых сцэнах як звычайнага статыста. З такім яго становішчам звыкліся ў акцёрскім асяроддзі. У картачцы было запісана: "Прыдатны толькі для масовак".

А тым часам Сяргей Герасімаў, ведучы ўсебаковую выхаваўчую працу ў майстэрні, імкнуўся развіваць у студэнтаў віртуознае акцёрскае ўменне. Ён уважліва вывучаў індывідуальныя асаблівасці кожнага, потым, працуючы са сцэнарыем і фільмам "Сямёра смелых", прыкідваў кожную дзеючую асобу на пэўнага акцёра. Так быў "прыкінуты" і Пятро Алейнікаў.

У дыпломнай рабоце ў ролі Пецькі Малібогі ў фільме "Сямёра смелых", напісанай з разлікам на яго індывідуальнасць, ён не толькі дасканала здзейсніў у вобразе літаратурна-сцэнічную задуму і рэжысёрскую трактоўку — ён надаў фільму дыханне жыцця, цеплыню, свежасць, абаянне і нейкую магнетычнай сілы прывабнасць.

Малібога Пятра Алейнікава меў сенсацыйны поспех. Яго палюбілі мільёны кінагледачоў, людзі рознага веку, рознай адукацыі і культуры. Кінематаграфісты з "Белдзяржкіно" былі здзіўлены. Ніхто не чакаў такой метамарфозы: "Нейкі статыст і раптам сігануў на вяршыню майстэрства і славы..."

"Сямёра смелых" вывелі Алейнікава на шырокую дарогу кінематографа. Яго пачалі запрашаць з фільма ў фільм. Рэжысёры спрачаліся за права здымаць яго. Здаралася, што ён здымаўся паралельна ў двух фільмах рознай вытворчасці. Новых фільмаў з удзелам Пятра Алейнікава людзі чакалі з вялікім нецярпеннем.

"Сямёра смелых" пачыналіся з простага надпісу, падобнага на звычайную інфармацыю ў газеце: "Камсамолец Ілья Летнікаў апублікаваў пісьмо з прапановай наладзіць у бухце "Радаснай" камсамольскую зімоўку. Чатырыста дзевяць чалавек праявілі жаданне зімаваць. Камісія выбрала з іх шэсць, і ў жніўні на караблі "КІМ" зімоўшчыкі прыбылі ў бухту "Радасная".

Наплывам узнікаюць высокія скалы і бераг мора. Людзі страляюць з вінтовак у паветра — салютуюць караблю, які адплывае дадому. Уздымаецца сцяг зімоўкі, гучыць музыка і любімая песня зімоўшчыкаў "Лейся, песня, на просторе", яе бадзёрая мелодыя пранізвае ўвесь фільм. Пазней гэтую песню запяюць па ўсёй неабсяжнай нашай краіне. Яна арганічна знітавана з фільмам, які надзвычай імпанаваў думкам і пачуццям тагачаснай моладзі. Гэта была незабыўная пара шырокай індустрыялізацыі краіны, славутых чкалаўскіх пералётаў.

Сярод зімоўшчыкаў — адзіная жанчына, урач экспедыцыі Жэня Ахрыменка (Т. Макарава). Астатнія ўсе — юнакі. Шасцёра... А хто сёмы і дзе ён? Пакуль што яго не відно. Ніхто не запрашаў падлетка Пецьку Малібогу (П. Алейнікаў) на зімоўку, не ўключаў у склад геолагаразведвальнай экспедыцыі. Ён сам сябе ўключыў. Каторы раз ён спрабуе трапіць у Арктыку, але яго заўсёды лавілі ў якім-небудзь кутку на караблі і пад дружны смех спускалі на зямлю.

Хлопца ведалі ўжо ва ўсіх марскіх портах поўначы. Здавалася, задуме яго і на гэты раз не суджана здзейсніцца. Але ён абхітрыў усіх і дамогся свайго.

..Зімоўшчыкі парадкуюць рэчы. Здзіўленыя збіраюцца каля вялікай скрыні. Адтуль чуецца раптам: "Ого-го-го-го!"

Летнікаў загадвае адкрыць люк. Паказваецца галава Малібогі. Яго адразу пазнаюць.

— А! Стары знаёмы! — гаворыць Летнікаў.

Малібога вылазіць са скрыні.

— Добры дзень, таварыш начальнік!

— Хто там яшчэ? — пытае нехта.

Малібога адказвае:

— Больш няма нікога.

У глядзельнай зале ажыўленне. Усяго два сказы прамовіў Алейнікаў-Малібога і ўскалыхнуў гледачоў.

Трапляюцца людзі, якія валодаюць дзіўнай здольнасцю ўздзеяння на іншых. Калі такі чалавек нечакана ўсміхнецца, услед за ім без дай прычыны захочацца ўсміхнуцца і вам. Калі ж ён свядома ці несвядома засумуе, гэты сум адразу агорне і вас. Такой выключнай здольнасцю быў шчодра надзелены Пятро Алейнікаў.

Аблічча Малібогі запаміналася з першага кадра. Ён маланкава заваёўваў гледача. Кінематаграфістам, якія тонка разумелі спецыфіку сваёй галіны мастацтва, з самага пачатку было зразумела, што ў асобе маладога Алейнікава савецкае кіно ўзбагацілася акцёрам выключна кінематаграфічнага дару.

Здзіўляе паўната і мастацкая насычанасць вобраза ў мінімальным часе кінадзеяння. Літаральна на момант узнікаў на экране твар "палярнага зайца", і гэтага было дастаткова, каб з бязмежнай выразнасцю выявілася яго разгубленасць, боязь таго, што магло яго чакаць за нечуваны дзёрзкі ўчынак, і адначасна радасць ад усведамлення, што нарэшце мэта дасягнута. Вочы высвечвалі і дзіцячую гарэзлівасць, і наіўнасць, спалучаную з рашучасцю і воляй.

Калі зімоўшчыкі пачынаюць меркаваць, якім чынам пераправіць Малібогу на Вялікую зямлю, гледачы ўжо хвалююцца за яго лёс і ўнутрана пярэчаць гэтым захадам.

— На тры дні сухі паёк — і ў шлюпку.

Летнікаў не згаджаецца з прапановай:

— У шлюпку? У шлюпку не трэба. Шкода. Шлюпку шкода.

Малібога пырскае ад смеху і ўмомант сціхае. Лётчык Багун згаджаецца пераправіць яго самалётам. Гэта палохае хлопца, бо не падобна на жарт.

Змены настрояў Алейнікава былі такія натуральныя, што самае пільнае прафесійнае вока не магло б заўважыць так званых швоў ігры. У далейшым творчым развіцці і няспынных пошуках Пятро Алейнікаў авалодае самым тонкім майстэрствам сцвярджэння сябе ў вобразе. Дасягне выключнай пераканаўчасці і поўнай жыццёвай адпаведнасці. Будзе абсалютна праўдзівы ў кожным эпізодзе і сітуацыі. Рэдка хто з кінаакцёраў параўнаецца з ім уменнем адчуваць і ўвасабляць верагоднасць. Майстэрства арганічна зліваецца з вобразам прынясе маладому кінаакцёру многа асалоды і радасці, але нямала і гаркоты. Знойдуцца зайздроснікі, якія пачнуць атаясамліваць Пятра Алейнікава з вобразамі, створанымі ім. Яму начэпяць ярлык абмежаванага дыяпазону, ён дачакаецца нешчаслівых дзён неразумення і да канца жыцця не залечыць балючай траўмы. Але пра гэта пазней.

...На беразе шумна. Адзін начальнік зімоўкі Летнікаў заклапочана маўчыць. Раптам твар яго асвятляецца ўсмешкай:

— Што рабіць можаш? — пытаецца ён у Малібогі.

— Кухарам быць магу!

Усмешка Летнікава ярчэе.

Малібога зразумеў: начальнік залічыць яго ў экспедыцыю.

Рыхтуючыся да ролі кухара, Пятро Алейнікаў вучыўся ў сапраўднага майстра кулінарнай справы. Ён расказваў аўтару гэтых радкоў: "Вучыўся я старанна, дакладна выконваў усе патрабаванні класнага шэф-повара. Пакрысе я навучыўся вастрыць нажы, шаткаваць капусту, моркву, але ўвесь час хадзіў з парэзанымі і абадранымі рукамі. Калі ж у канцы "курса навучання" я ўжо з лёгкасцю пераварочваў дзесятак аладак на гарачай патэльні, дык мімаволі адчуў сапраўднае задавальненне. Праз нейкі час я прызнаўся майстру, што вучыўся ў яго толькі для таго, каб сыграць ролю кухара. Настаўнік мой анямеў... І вельмі пакрыўдзіўся. Нарэшце сказаў:

— Эх, Пеця, Пеця. Дарэмна ўсё гэта. Мог бы чалавекам стаць, а ты ў нейкія артысты пнешся...

Пасля, калі "Сямёра смелых" шырока дэманстраваліся на шматлікіх экранах, гэты выдатны ленінградскі спецыяліст кулінарнай справы наведваў сеанс за сеансам і, штурхаючы пад бок знаёмых і незнаёмых гледачоў, радасна выкрыкваў: "Малайчына, Пеця! Мая школа. Прызнаю свой почырк, хвалю!"

Перад здымкамі ў "Трактарыстах" давялося зноў вучыцца — вадзіць трактар. Разам са славутым кінаартыстам Барысам Андрэевым ён нават працаваў механізатарам у саўгасе.

Народны артыст СССР Сяргей Герасімаў расказваў Эдуарду Белтаву — студэнту інстытута кінематаграфіі, які сваю дыпломную кіназнаўчую працу прысвяціў Пятру Алейнікаву, што ў першым варыянце сцэнарыя ("Сямёра смелых") Малібога быў амаль непрыкметны. У яго былі тры ці чатыры рэплікі. Аднак калі ролю даручылі Пятру Алейнікаву і пачаліся рэпетыцыі, усе адчулі патрэбу ў пашырэнні ролі. Акцёр унёс столькі дасціпнасці, вынаходлівасці і абаяльнасці ў ігру, што сцэнарысты Ю. Герман і С. Герасімаў пачалі дапісваць дзеля яго новыя сцэны і эпізоды. Асабістыя якасці акцёра да такой ступені супадалі з вобразам, што ўдзельнікам здымачнай групы часам здавалася: гэта ніякі не Малібога, а сапраўдны Пятро Алейнікаў застаецца зімаваць на далёкім арктычным востраве. Нават імя і імя па бацьку пакінулі яму сваё — Пятро Марцінавіч.

У наступным фільме "Камсамольск" маладога хлопца, якога ён будзе іграць, назавуць ужо цалкам Пятром Алейнікавым, выказваючы поўную злітнасць акцёра з персанажам.

Чырвонаармеец Эйно ў фільме "За радзіму" — чарговая роля Пятра Алейнікава, яшчэ студэнта. У гэтай стужцы паказвалася ўзброеная барацьба ў гады грамадзянскай вайны на поўначы краіны.

Сціплым, ціхім і сарамлівым быў Эйно ў звычайных абставінах паходнага жыцця. Баец, як і ўсе іншыя. Акцёр нічога ў ім не вылучаў і не падкрэсліваў. Але вось загрымеў бой. Эйно ўмомант змяніўся, яго ўжо нельга пазнаць. Здавалася, дзейнічае зусім не той воін: увесь — напружанне, воля, адвага, рашучасць і спрыт.

Контурна створаная роля Эйно мела ў сцэнарыі невялікі памер.

Але Пятро Алейнікаў пераадолеў яго слабую літаратурную аснову. Ён паказаў чалавека з акрэсленым характарам, з жывымі думкамі і пачуццямі.

Сяргей Герасімаў, акрылены поспехам "Семярых смелых", запаліўся пастаноўкай фільма "Камсамольск". Да гэтага часу здымкі фільма "За радзіму" скончыліся, і Пятро Алейнікаў вярнуўся ў сваю здымачную групу. Яго прызначаюць на ролю вясёлага юнака, які разам з іншымі маладымі людзьмі прыязджае на Далёкі Усход будаваць новы горад у тайзе. Сваё асабістае ўражанне ад дарогі праз усю краіну і захапленне казачнапрыгожым краем цалкам аддае артыст новай ролі. На жаль, здымалі Алейнікава мала. Гатовы фільм не спраўдзіў яго спадзяванняў. Роля атрымалася эпізадычнай. Акцёру не было дзе разгарнуцца. І ўсё ж гэтая роля надзвычай выразная і запамінальная.

Бліснуў маланкай герой на экране, выклікаў сімпатыі і... знік. Дарэмна заінтрыгаваныя гледачы чакалі яго новага з'яўлення. Ён не вярнуўся. Але ў "Камсамольску" пра яго загаварылі. Незадоўга да выхаду на экран "Камсамольск" паказалі ў праекцыйнай зале "Масфільма". Стваральнікі кіно — гледачы патрабавальныя і бязлітасныя. Хіба ж лёгка іх здзівіць, а тым болей узрушыць. Да кожнай новай карціны падыход у іх суровы і прыдзірлівы. Сочаць яны звычайна не так за развіццём падзей на экране, як за стылявой манерай, творчымі прыёмамі, формаю пабудовы, выразнасцю выяўлення і цікавымі знаходкамі. Апрача таго, бачаць не толькі тое, што ўвайшло ў кадр, але беспамылкова ўяўляюць, што рабілася па-за кадрам, калі здымалі карціну.

І раптам дзіўная нечаканасць! Паважаныя, славутыя майстры разыходзіліся з прагляду ўзрушаныя: не маглі даўмецца, у чым сакрэт, як у зусім невялічкай ролі выканаўца здолеў да глыбіні душы ўсхваляваць самых сур'ёзных і аўтарытэтных кінематаграфістаў. Нават Даўжэнка, Эйзенштэйн і Пудоўкін выказвалі жаданне пазнаёміцца з артыстам і прапанаваць яму ролю на выбар.

У перадваенныя гады меў вялікі поспех фільм Івана Пыр'ева "Трактарысты".Заклікам да абароны радзімы быў прасякнуты кожны кадр, зроблены таленавіта, па-мастацку. "Трактарыстаў" людзі глядзелі па некалькі разоў.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 20.**

# ДЗЕЛЯ ЧАГО МЫ ПРЫХОДЗІМ НА ГЭТУЮ ЗЯМЛЮ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

шу", а "мама мыла раму". За буквар саджалі і дарослых. Па сабе ведаю: я ўмеў за плугам хадзіць, касой махаць, а мусіў яшчэ ў другі , у трэці клас хадзіць.

— Макаранка адпавядаў свайму часу?

— Безумоўна. Гэта ідэальны выразнік свайго часу, сваіх задач у нашай педагогіцы. Было б кашчунствам не прызнаць, што Макаранка быў падзвіжнік, я падкрэсліваю, падзвіжнік.

Аднак сістэма выхавання па Макаранку — аўтарытарная сістэма, што азначае падаўленне асобы чалавека, ідэалізацыю ўлады калектыву над асобай, улады большасці. Што мы вінцікі, нам дзяўблі з пакалення ў пакаленне.

Сухамлінскі ўзышоў на небасхіле нашай грамадскай думкі, калі мы зразумелі, што так далей жыць нельга. Адбыўся паварот да чалавека, які каштоўны перш за ўсё сваёй індывідуальнасцю, талентам, тым, на што ён здатны як чалавек. Калі Сухамлінскі напісаў кніжку "Сэрца аддаю дзецям", на яго абрынулася афіцыйная педагогіка: не вучэнне марксізму-ленінізму, а сэрца аддае дзецям. Потым усё ж ён перамог. Настаўнік нёс праўду жыцця не сваёй тэорыяй, а практыкай. Сухамлінскі лічыў самым галоўным абудзіць пачуцці чалавека. Для афіцыйнай нашай педагогікі выхаванне эмацыянальнай культуры — рэч пакуль што недасягальная.

— Чаму вучэнне Сухамлінскага не стала масавым? Ці ёсць у яго паслядоўнікі ў краіне, у нас на Беларусі?

— Я вас павінен перасцерагчы. Не ўсё можна пераймаць, насаджаць. Я радуюся ўжо таму, што была такая асоба. Пасля Сухамлінскага па ўсёй краіне ўспыхнулі ліхтарыкі, маячкі, але кожны выяўляў свае магчымасці. Яго праца стала штуршком, а здабыткі яго ўзбагачаліся іншымі. Аманашвілі, Шаталаў, Ільін, беларускі педагог з Кармы Дзмітрыеў, іншыя — кожны іграў і іграе на сваім інструменце, служачы агульнай справе — выхаванню чалавека.

— Прыкра, што школа, афіцыйная педагогіка такая далёкая па сваёй сутнасці ад творчых настаўнікаў.

Ці не адна гэта з прычын таго, што наша грамадства ўсё больш і больш прыходзіць у заняпад? Што за чалавек выходзіць з нашай школы, каго мы выхоўваем?

— Адназначна мы з вамі не адкажам на гэта пытанне. Школу даводзіць да развалу наша матэрыяльная ўбогасць, залежнасць ад капрызаў гаспадарнікаў, ад тых жа бюракратаў, пачынаючы з мясцовых і канчаючы самымі высокімі інстанцыямі. Ведамаснымі цыркулярамі і прадпісаннямі настаўнік звязаны па руках і нагах. Педагог асобай сябе не адчувае. Мы выхавалі пакаленні безыніцыятыўных настаўнікаў, якія не маюць права ступіць кроку без дазволу, загаду, інструкцыі.

— І веды яны таксама не заўсёды маюць дасканалыя. Чаму?

— Іх так рыхтавалі па пэўнай шпаргалцы. Усё заканаңізавана. З іх нямногія цікавяцца тымі, хто быў да іх, што пісаў.

— Тая хваля злачыннасці, што сёння захліснула нас, неяк звязана са школай? Як на вашу думку?

— Вядома. Збяднела эмацыянальная сфера, збяднелі тыя душэўныя індыкатары, якімі чалавек павінен успрымаць наваколле. Я назіраю ўжо некалькі пакаленняў дзяцей, якія не ўмеюць чырванець. Гэта мяне трывожыць. Сучасныя дзеці не здольны пачырванець ад сораму, ад злога ўчынку, ад няправільнага слова, сказанага перад дарослымі. Леў Талстой выказаў вельмі простую ісціну: "Чалавек, які чырванее, можа любіць, а чалавек, які можа любіць, — усё можа." Прапаў сорам, знікла і каханне, прапала цнатлівасць адносін паміж дзяўчатамі і хлопцамі. Звярніце ўвагу. У кіёску побач з "Праўдой" ляжыць кніжачка — "Тэхніка сексу", 5 рублёў. Спекулянты-ўрвіцелі грабуць грошы. Што за тэхніка? На першай жа вокладцы паказваецца, як гэта робіцца. Самым звычайным дзедаўскім спосабам, як і тысячы гадоў назад. Чаму гэта тэхніка сексу, і чаму секс стаў тэхнікай? Чаму ўсё раптам стала так проста і даступна?!

— Вы гаварылі, што вас непрыемна здзівілі дзіцячыя конкурсы прыгажосці...

— Вось "Комсомольская правда" ад 20 снежня 1990 года. У Балакове адбыўся конкурс прыгажосці "Міс дзіцячы сад", у якім удзельнічалі дзяўчынкі да 5 гадоў.

— І ў нас паспелі ўжо правесці падобныя конкурсы...

— У Беларусі вельмі стараюцца. Вось "Добры вечар", "Вячэрні Мінск", ды і "Народная газета" далучылася. Так распаўсюджваецца мяшчанства, ствараецца спажывецкае ўяўленне, што мода на конкурсы — элітарна, што так можна некуды прабіцца, завяваць прызнанне. Калі самім не ўдалося, то хоць праз дзяцей ці ўнукаў.

— Школа, як і ўсё грамадства, у глыбокім крызісе. А можа нас выратуе гімназія?

— Я лічу, што некалі яна стаяла на больш правільным грунце. Некалі было два віды гімназіі: рэальнае вучылішча, што змалку арыентавала на спецыяльнасць, на пэўны занятак, і гімназія, дзе рыхтавалі гуманітарыяў. Заўважце, што апошняя давала большую падрыхтоўку, чым цяперашні універсітэт.

— Гімназіі ўжо адкрываюцца і ў Мінску...

— Не магу нічога сказаць, мяне туды ніхто не запрашаў. Але я, напрыклад, публічна выказваў такую думку: нам трэба руліцца аб нацыянальных кадрах, і ў першую чаргу давайце падумаем пра педагагічныя кадры, якія мы страцілі за гэтыя гады. Мы ўжо гаварылі з вамі, што спецыяльнасць педагога стала непрэстыжнай, зневажалася, матэрыяльна ўшчамлялася. Пачнем з тых жа педвучылішчаў.

Усе мы часта ўспамінаем ролю Белпедтэхнікума, які працаваў у 20-я гады ў Мінску. Там выкладалі Якуб Колас, Язэп Лёсік, Аркадзь Смоліч. Гэта былі тыя людзі, хто закладаў аснову нашай педагогікі, сярэдняй і вышэйшай. А каго рыхтавалі? Першыя кадры творчай інтэлігенцыі, педагагічнай інтэлігенцыі. Такія тэхнікумы потым з'явіліся ў многіх гарадах. І ішлі туды людзі, якія яшчэ стаялі на цвёрдым грунце нацыянальнай культуры. Гэта былі сапраўды першыя кадры, яны выйшлі з народа і служылі народу.

— Чаму ў нашых школах, не гаворачы пра інстытуты, не прыжываецца беларуская мова? Чаму сельскія школьнікі едуць на аўтобусе ў суседнюю вёску ці мястэчка, толькі б у рускую школу, а не беларускую ў роднай вёсцы?

— Страцілася рэальная жыццёвая глеба і асяроддзе для існавання нашай мовы. Хіба мову можна ўвесці па загаду? Калі я жыву на сваёй зямлі, то я павінен чуць яе штодзённа. У маленстве тое, што мяне акружала, называлася па-беларуску, гучала на мове, якую я ведаў з вуснаў блізкіх мне людзей, кожная рэч, кожная жывая істота мела сваё імя, сама зямля, дарогі, дрэвы, кветкі — вось што такое мова.

— Як жа нам яе ўсё ж такі вярнуць — нашу мову?

— Трэба гаварыць. І па радыё, і па тэлебачанні. І не толькі дыктарам афіцыйнай, казённай мовай. Хай загаворыць простая жанчына, каб людзі адчулі інтанацыю, жывую мелодыку мовы, яе прывабнасць. Гэта будзе натуральнае далучэнне да жывых вытокаў. Таму што так, як далучаюць да яе нашы маладыя адраджэнцы, якія ўдарыліся ў архаіку, карысці не будзе.

А вось да правапісу трэба вярнуцца. Напрыклад, да мяккага знаку ў падвоеных зычных. У гэтым мілагучнасць мовы, захаванне яе законаў. Правільна робяць тыя выданні, якія друкуюць старыя тэксты так, як яны некалі пісаліся.

— Не так даўно з'явілася зусім новая для нас праблема — школа і рэлігія. Вы гаварылі, што і тут вас нешта непакоіць.

— Непакоіць. Надта непакоіць. Мяне насцеражыў і збянтэжыў такі паварот: падаецца як вялікае адкрыццё ці вялікае дасягненне, што мы цяпер маем права пайсці ў царкву або стаць веруючымі. Нібы толькі зараз з'явілася такая патрэба душы. Нічога падобнага. Нам паказалі па тэлебачанні ў натуры службу, літургію. Што тут для нас новага? Гэта тое ж шоу, да якога мы даўно прызвычаіліся, шыкознасць, святочнасць, якіх празмеры хапала ва ўсіх афіцыйных і казённых рытуальных відовішчах. Раней перад намі з'яўляўся Хрушчоў і Брэжнеў са сваёй світай, цяпер патрыярх, мітрапаліт. Амаль ніякай розніцы для ўспрыняцця. У веруючыя можна запісацца, а да ісціны трэба дайсці. Ці ёсць у чалавека патрэба ў веры, ці шукае ён гэтага апірышча, у чым яго бачыць? Бог — перш за ўсё тайна, да якой імкнецца чалавек. Людзі, якія жылі да нас, шукалі гэтай тайны.

У сваёй біяграфіі я пішу, з чаго пачалося маё здзіўленне перад светам, маё ўражанне ад зорнага неба, якое здзівіла і ўстрывожыла не аднаго мяне, а мільёны людзей да мяне і пасля мяне, і пасля нас. Раптам такая веліч, адкуль што ўзялося, ці ёсць канец гэтаму? Вось першыя тайны, што трывожаць чалавека. А калі ён прыйшоў на гэту зямлю і нават не бачыў, як сонца ўзыходзіць, то я не ведаю, дзеля чаго ён прыходзіў.

— І ўсё ж, якую шкоду можа прынесці школе рэлігія?

— Вялікую. Такую ж самую, як марксізм-ленінізм. Проста адну веру заменяць на другую. Некалькімі пакаленнямі мы прывучаны жыць, згодна прынятых некім рашэнняў. Я супраць догмаў, я за далучэнне да таго, што створана падзвіжнікамі духу, шукальнікамі ісціны.

— Колькі існуе чалавецтва, столькі існуе і вера. У што нам сёння верыць?

— Зноў вы задаяце мне пытанне, за якім я бачу нітачку ці нават павуцінку таго, на што мы спадзяваліся доўга: нехта нешта павінен выпрацаваць, а мы пойдзем па вызначаным шляху. Наша ж з вамі задача ў клопаце аб выхаванні чалавека, у клопаце аб духоўнасці, зрабіць так, каб разварушыць душу чалавека, каб ён задумаўся, а калі задумаецца, пачне шукаць. Шукальнікі ствараюць сістэму і вераванні, імкнуцца сцвердзіць сваю веру перш за ўсё для сябе, а потым знаходзяцца паслядоўнікі, асяродак людзей, якія падзяляюць гэту веру ці становяцца яе праціўнікамі.

— Вялікае дзякуй, Цімох Васільевіч, за цікавую гутарку. І ад імя ўсіх нашых чытачоў віншую вас з вашым юбілеем. Здароўя вам і новых творчых поспехаў!

Гутарку вяла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

## РЫГОРУ ШЫРМУ ПРЫСВЕЧАНА

Альбом-нарыс "Рыгор Шырма", выпушчаны выдавецтвам "Беларусь", па сваім афармленні нічым не адрозніваецца ад альбомаў, што прысвячаліся жыццю і творчасці народных пісьменнікаў рэспублікі (апошні з іх прысвечаны І. Шамякіну). Аўтар-складальнік В. Ліцвінка падрабязна расказвае пра чалавека, творцу, грамадзяніна, які яшчэ пры жыцці стаў гонарам беларускай нацыі. У артыкуле "Яго жыццё стала песняй" нагадваюцца вядомыя факты з біяграфіі нястомнага руплівца на ніве нацыянальнага Адраджэння, падкрэсліваецца, што "шчырым клопатам Шырмы сагрэта цэлае пакаленне дзеячаў беларускага мастацтва". Багаты і ілюстрацыйны матэрыял. Каляровыя і чорна-белыя здымкі, зробленыя В. Харчанкам і А. Дзмітрыевым, а таксама з архіва аўтара запрашаюць пабываць у мясцінах, дзе Рыгор Раманавіч нарадзіўся і жыў, куды наведваўся, дапамагаюць лепш адчуць тую творчую атмасферу, што панавала ў час яго кантактаў з дзеячамі літаратуры, культуры, мастацтва.

Гэтым выданнем "Беларусь" мяркуе пачаць выпуск новай серыі, у якую ўвайшлі б аналагічныя альбомы-нарысы і пра іншых выдатных дзеячаў мастацтва — Л. Александроўскую, І. Жыновіча, Г. Цітовіча...

В. СЯРОДКА.

## АДРОДЖАНЫЯ АБРАДЫ





Фальклорны калектыў з вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці — адзін з цікавейшых у рэспубліцы. Яго ўдзельнікі добра ведаюць розныя народныя абрады, звязаныя з жыццём вёскі, дапамагаюць аднавяскоўцам вярнуць іх з небыцця. Праз усе забароны і абмежаванні пранеслі яны любоў да народнай песні, да сельскіх традыцый.

Адзін з адроджаных імі абрадаў — свята Юр'е, звязанае з выганам жывёлы ў поле. У гэты дзень збіраліся прыгожа апранутыя сяльчане і ішлі за ваколіцу, да крыжа, што стаіць ля ўезда ў вёску. І пачыналі спяваць юр'еўскія песні:

Ды мы Юр'е сустракаем,
Ды мы Бога велічаем...

Людзі прасілі Юр'я-выратавальніка зберагчы іх ад хвароб і дрэнных людзей, а жывёле даць добрыя травы.

Гаспадыні пяклі спецыяльныя хлябы і частавалі імі жывёлу — каб была здаровай. Асаблівай павагай карыстаўся ў гэты дзень, вядома ж, пастух.

Нядаўна ў Ахонаве і адзначылі свята Юр'е.

На ЗДЫМКАХ: выступае фальклорны калектыў; у ролі пастуха — Аляксандр ХЛЯБОВІЧ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

*ЗАЛАТЫЯ РУКІ*

# ДАЦЬ ЛЮДЗЯМ РАДАСЦЬ



Гэтаму чалавеку можна пазайздросціць. Вядома, зайздрасцю добразычлівай. Такіх, як ён, у народзе называюць майстрамі на ўсе рукі. І сапраўды, прырода яго надзяліла не толькі здольнасцю ва ўсім заўважаць прыгажосць, але і ствараць яе і гэтым самым прыносіць людзям радасць.

Ён — мастак. Ва ўсім. Піша карціны, захапляецца разьбой па дрэву. Скульптурныя кампазіцыі, выкананыя гэтым чалавекам, устаноўлены пры ўездзе ў яго родную вёску Вялікая Вуса і ў Негарэльскім вучэбна-вопытным лясгасе пры ўваходзе ў лес. Адна з такіх работ па матывах твора Янкі Купалы "Адвечная песня" знаходзіцца ў абласным краязнаўчым музеі.

Яшчэ са школьных гадоў ён пачаў захапляцца фатаграфіяй і дасягнуў тут такой дасканаласці, якая дазволіла экспанавацца на многіх выстаўках фотааматараў.

Трынаццаць гадоў Пётр Глебка, а гэта пра яго гаворка, працаваў дырэктарам Ліцвянскага сельскага Дома культуры на Уздзеншчыне. У афармленне гэтай установы ён уклаў, як кажуць, сваю душу. Пры ім тут працавалі гурткі выяўленчага мастацтва, разьбы па дрэву, фотагурток.

Ёсць у Пятра Мікалаевіча яшчэ адно захапленне — здымаць кінафільмы. Адзін з іх — "Прыцяжэнне" на абласным конкурсе аматарскіх фільмаў заняў першае месца.

А неяк у народнага ўмельца з Уздзеншчыны з'явілася думка аб стварэнні невялікай гаспадарчай групы на арэндных умовах, якая выконвала б заказы на мастацкія вырабы з дрэва. Для гэтай мэты П. Глебка вырашыў арандаваць у калгасе імя Ульянава былую кацельню. Шмат часу пайшло на рамонт і афармленне памяшкання, на набыццё неабходных інструментаў. А потым гаспадарчая група пачала прымаць заказы ад арганізацый. Рабілі мастацкае афармленне дзіцячых садоў і зон адпачынку, дарожныя знакі, скульптурныя кампазіцыі і г. д. Нядаўна быў выкананы заказ Уздзенскага лясгаса: аформлена зона адпачынку ў адным з лясніцтваў. Месца гэтае прываблівае адпачываючых нейкай своеасаблівай казачнай прыгажосцю. Скульптурная кампазіцыя ўстаноўлена на 50-м кіламетры па Слуцкай шашы, у Валяр'янаўскім лясніцтве.

Гаспадарчая група, якую ўзначальвае Пётр Мікалаевіч, плануе ў бліжэйшы час прымаць заказы ад прыватных асоб. Падрыхтаваны ўжо эскізы на выраб розных бытавых рэчаў з дрэва.

Тое, што зроблена рукамі Пятра Глебкі, прыносіць радасць яго землякам.

**Міхаіл БУЛАТ.**

**НА ЗДЫМКУ: калодзеж майстра П. ГЛЕБКІ.**

**Фота аўтара.**

# ДЗЕД І БАБА

*Музыка А. ЧЫРКУНА* *Словы В. МЫСЛІЎЦА*




**Дзед пасеяў грэчку. Баба кажа: мак.**
**Дзед ажно падскочыў. Як жа гэта так?**
**Баба узняла кулак. Ты пасеяў, дзеду, мак.**
**Ну як грозішся ты так, грэчка будзе мак.**

**Прыпеў:**

**Бабка, мая пчолачка,**
**Бабка-перапёлачка,**
**Як жа мне з табою быць?!**
**Як з табою век пражыць?!**
**Як з такою век пражыць?!**

**Як злавіў дзед рыбу, баба кажа: рак.**
**Дзед ажно падскочыў. Як жа гэта так?**
**Баба узняла кулак: у вядзерцы, дзеду, рак.**
**Ну як грозішся ты так, рыба будзе рак.**

**Прыпеў.**

**Неяк за вячэрай дзед разважыў так:**
**Еў, здаецца, грэчку, а па смаку мак.**
**І дадумаўся бядак, спрэчку дзед закончыў так:**
**Не дакажаш бабе праўды аніяк.**

**Прыпеў.**

*СПОРТ*

Хакейны чэмпіянат свету і Еўропы, які завяршыўся ў пачатку мая ў Фінляндыі, безумоўна, стаў галоўнай падзеяй для многіх аматараў спорту. Вынікі першынства не ва ўсім нас задаволілі. Заваяваўшы еўрапейскае "золата", савецкія хакеісты сталі трэцімі на сусветным першынстве.

Адной з прычын параўнальнай няўдачы нашых спартсменаў, як самакрытычна прызнаў галоўны трэнер зборнай СССР Віктар Ціханаў, было камплектаванне каманды. Ён назваў імёны Квартальнава, Буцаева і іншых ігракоў, што нічым сябе не праявілі на чэмпіянаце свету.

Але Віктар Васільевіч, на жаль, не назваў і тых хакеістаў, якія засталіся дома і не паехалі ў Фінляндыю. А назваць было каго. Вельмі ўдала правялі, напрыклад, апошняе першынство краіны выхаванцы беларускай школы хакея Сяргей Шыпіцын, Андрэй Кавалёў, Мікалай Баршчэўскі. Яны выступалі за маскоўскія каманды "Дынама" і "Спартак", якія сталі адпаведна чэмпіёнам і сярэбраным прызёрам. І лідэрамі былі ў гэтых камандах іменна спартсмены з Беларусі.

Неяк зімой у Мінску Віктар Ціханаў казаў, што вышэйназваныя хлопцы "забраніравалі" сабе месца ў зборнай. Гэтыя словы аказаліся толькі пустым абяцаннем.

Вядома, мы перажываем за сваіх землякоў-спартсменаў, часам бываем неаб'ектыўнымі. Але тое, што і Баршчэўскі, і Шыпіцын, і Кавалёў маглі ўзмацніць зборную СССР на першынстве свету і Еўропы — факт бясспрэчны. Такой думкі прытрымліваюцца многія спартыўныя спецыялісты.

Нам крыўдна і за Сяргея Фёдарава. У адным з нумароў "Голасу Радзімы" мы ўжо расказвалі аб канфлікце таленавітага беларускага хакеіста з галоўным трэнерам краіны. І вельмі шкада, што асабістую крыўду Віктар Ціханаў паставіў вышэй за агульныя інтарэсы, таму і не запрасіў Сяргея ў зборную СССР.

Хочацца верыць, што былая моц нашых хакеістаў будзе адроджана. І мы вельмі спадзяёмся на маючы адбыцца праз некалькі месяцаў міжнародны турнір "Кубак Канады", верым у перамогу хакеістаў СССР, а таксама спадзяёмся ўбачыць у зборнай краіны і беларускіх хакеістаў.

**Беларусь дала свету больш, чым свет ведае пра яе. Але сёння да працэсаў сусветнай інтэграцыі ўсё актыўней падключаецца і Беларусь, пра якую можна сказаць, што яна — своеасаблівыя "вароты" з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Улічваючы пажаданні славістаў свету, а таксама дзеля таго, каб сёння ў свеце больш ведалі пра шматвяковую гісторыю і культуру беларускага народа, даючы мажлівасць кожнаму, хто пажадае, азнаёміцца з беларускай мовай, літаратурай, зразумець самабытнасць нацыянальнага духу, з гэтай мэтай упершыню на Беларусі — з 3 па 29 ліпеня і з 1 па 25 жніўня 1991 года — распачынае сваю працу Міжнародная школа беларусістыкі — беларускай мовы, літаратуры і культуры (МШБ).**

**МШБ адкрываецца пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Гэта самастойная культурна-асветніцкая ўстанова, якая працуе на ўмовах самафінансавання і самаакупнасці. Заняткі ў школе праводзяцца як па агульнай, так і па індывідуальнай праграмах. Можна прыехаць на вучобу на ўвесь тэрмін навучання летам. Разлік праводзіцца па камерцыйных цэнах і фактычных выдатках па выніках работы школы. Гарантыя аплаты па рахунках МШБ у дырэкцыі не выклікае заклапочанасці.**

**МШБ гатова прыняць за кошт стыпендый таварыстваў, суполак, аб'яднанняў усіх жадаючых летам гэтага года на любы тэрмін.**

**Больш падрабязную інфармацыю вы можаце атрымаць пісьмова.**

**Дырэкцыя МШБ.**

**Наш адрас: 220088, Мінск-88, вул. Захарава, 59. МШБ.**
**Тэлефон: 27-30-14**
**Тэлетайп: 252385 ГАММА**
**Тэлефакс: (0172) 265940**

## БУДУЕЦЦА ХРАМ

Будаўніцтва Свята-Пакроўскай праваслаўнай царквы пачалося ў вёсцы Збураж каля Маларыты. Першы камень культавай установы заклаў, а таксама асвяціў гэта месца настаяцель Свята-Сімяонаўскага праваслаўнага сабора, сакратар Брэсцкага епархіяльнага праўлення Яўген Парфянюк.

Узвядзенне храма пачалося побач з тым самым месцам, дзе ў 1943 годзе нямецка-фашысцкія акупанты разам з 320 дамамі вяскоўцаў спалілі царкву, пабудаваную ў мінулым стагоддзі.

Для будаўніцтва храма мясцовы калгас выдзеліў бясплатна цэглу, падмуркавыя блокі, жалезабетонныя перакрыцці.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

# НАШ АДРАС:

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 782.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12